ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 42 (2600)

22 кастрычніка 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

*ЗНЕШНЕПРАЦОЎНАЯ МІГРАЦЫЯ*

## ДОБРА ТАМ, ДЗЕ НАС НЯМА

**Спрабаваць спыніць выезд за мяжу ў пошуках работы — справа безнадзейная, асабліва ў кантэксце эканамічных умоў, якія пагаршаюцца ў самой Беларусі. Як паказвае сусветны вопыт, гэты працэс можна толькі ўпарадкаваць.**

З 1992 года пры Дзяржаўнай міграцыйнай службе існуе Камітэт па міграцыі, які і займаецца рэгуляваннем гэтых працэсаў. Асноўным дакументам, што да нядаўняга часу рэгламентаваў работу службы, была прынятая 10 снежня 1993 года пастанова Савета Міністраў нумар 832 "Аб мерах па рэгуляванню знешнепрацоўнай міграцыі". Гэтай пастановай органы дзяржаўнага кіравання і суб'екты гаспадарання кіраваліся да 17 чэрвеня гэтага года, калі быў прыняты Закон "Аб знешнепрацоўнай міграцыі". Яго дзеянне распаўсюджваецца на органы дзяржкіравання, суб'екты гаспадарання, незалежна ад форм уласнасці, уключаючы асоб, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць без стварэння юрыдычнай асобы, што займаюцца накіраваннем грамадзян Рэспублікі Беларусь для аплачваемай працоўнай дзейнасці за мяжу і прыцягненнем сюды замежнай рабочай сілы. Акрамя таго, закон распаўсюджваецца на беларускіх наймальнікаў, якія заключаюць працоўныя дагаворы з працоўнымі мігрантамі, а таксама на працоўных мігрантаў і членаў іх сямей. Не прымяняецца гэты закон да замежных грамадзян і асоб без грамадзянства.

Згодна з законам, права на дзейнасць, звязаную з працаўладкаваннем нашых грамадзян за рубяжом, маюць суб'екты гаспадарання, юрыдычныя і фізічныя асобы, якія зарэгістраваны ў адпаведных органах мясцовай улады і заключылі кантракты з замежнымі наймальнікамі ці пасрэдніцкімі фірмамі іншых дзяржаў.

Акрамя рэгулявання пытанняў уезду замежных грамадзян на тэрыторыю Беларусі для работы і выезду нашых грамадзян з той жа мэтай за рубеж, закон абараняе прыярытэтныя правы беларусаў на заняцце вакантных месцаў унутры краіны. Саветам Міністраў з улікам дзяржаўных інтарэсаў і сітуацыі на ўнутраным рынку ўстанаўліваюцца квоты на прыцягненне замежнай рабочай сілы ў краіну. Аднак, як паказвае статыстыка, пакуль што гэтая праблема для нас востра не стаіць: колькасць працоўных мігрантаў, што афіцыйна прыбылі на працу ў Беларусь у 1994 годзе, складала 105 чалавек, а летась — 357 чалавек. (Нагадаем, што гаворка ідзе аб легальных мігрантах).

Паколькі працоўная міграцыя — пытанне для нас адносна новае, у закон быў уведзены так званы "апарат паняццяў" для абазначэння тэрмінаў, якія ў далейшым будуць выкарыстоўвацца ў сувязі з гэтай праблемай. Таксама закон вызначае парадак ліцэнзавання суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца як наймам замежных работнікаў для работы на тэрыторыі Беларусі, так і арганізацый і фірм, якія займаюцца пасрэдніцкай дзейнасцю ў гэтай сферы.

Аднак у асноўным гэты закон закліканы забяспечыць дзяржаўную падтрымку нашым грамадзянам, што выязджаюць за мяжу, стварыць прававы калідор для іх выезду і цывілізаванага знаходжання і працы за рубяжом.

Грамадзяне Беларусі, якія едуць за мяжу для атрымання аплачваемай працы, павінны мець працоўны дагавор, заключаны з наймальнікам і візу дзяржавы працаўладкавання, выдадзеную яе дыпламатычным прадстаўніцтвам ці консульскай установай. Парадак прыцягнення працоўных мігрантаў і асноўныя патрабаванні да іх устанаўліваюцца заканадаўствам дзяржавы працаўладкавання і міжнароднымі дагаворамі нашай краіны.

Пры парушэнні ўмоў працоўнага дагавора наймальнікам нашай краіны органы дзяржаўнай міграцыйнай службы Беларусі аказваюць садзейнічанне працоўнаму мігранту ў атрыманні льгот і кампенсацый, датэрміновым скасаванні працоўнага дагавора і вяртанні ў краіну выезду за кошт наймальніка. Гэты пункт закліканы засведчыць, што дзяржава працуе ў рамках міжнародных прававых норм і абараняе інтарэсы замежных грамадзян,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

З ВЫСТАВЫ АЛЕСЯ ШАТЭРНІКА Ў ПОЛАЦКУ

## ПАЧУЦЦІ ДА РАДЗІМЫ, ЗЯМЛІ, БОГА



Гэтым летам, у ліпені-жніўні, з поспехам прайшла персанальная выстава твораў мастака Алеся Шатэрніка. Экспазіцыя месцілася ў невялічкай утульнай галерэі Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка і, як і іншыя выставы, была арганізавана пры фундатарскай падтрымцы мясцовай фірмы "Блок". Дарэчы, ініцыятарамі стварэння гэтай галерэі былі мастакі Алесь Канавалаў і Сяргей Цімохаў. Іхняя ідэя шчасліва рэалізавалася, і ўжо з 1991 года дзве міласця супрацоўніцы — Марына Мярцалава і Таццяна Яўіч — ладзяць тут па восем-дзесяць выставаў штогод. Да апошняга часу яны прапагандавалі пераважна творчасць майстроў роднага Прыдзвіння.

Сёлета ўпершыню выйшлі на мастакоў з Мінска. Жывапісец Аляксей Марачкін здзівіў палачан сваімі акварэлямі, у якіх апявае жаночую красу, а скульптар Алесь Шатэрнік уразіў жывапіснымі краявідамі ды вершаскладамі. "Мы сведкі рэдкай з'явы ў сучасным мастацтве, калі творца паўстае перад гледачом адразу ў трох іпастасях. На гэта здатная толькі раскаваная, разняволеная, унутрана свабодная асоба. Свае пачуцці да Радзімы, Зямлі, Бога ён выказвае проста і сардэчна, карыстаючыся пры гэтым рознымі сродкамі: разцом, фарбамі, словам". Так распачала адкрыццё выставы дырэктар галерэі Марына Мярцалава. Пасля было шмат прамоў як з боку гасцей, што прыехалі з Мінска, так і з боку мясцовай інтэлігенцыі. Кожны ў нечым паўтараўся і ў той жа час дадаваў нешта новае, сваё, чаго не ведалі пра мастака іншыя. З гэтых маўленняў паўставаў даволі поўны партрэт Алеся Шатэрніка. Трэба сказаць, што адбывалася ўсё шчыра, нязмушана і было пазбаўлена ўсялякага афіцыёзу і заарганізаванасці. Выступоўцы ў той ці іншай меры кранали розныя грані таленту мастака, а перадусім — яго дачыненне да скульптуры, у галіне якой ён плённа працуе больш за 30 гадоў.

А пачыналася, як распавёў мне сам Алесь, усё даволі проста, як і ў многіх іншых. У дзяцінстве ў яго было два захапленні. Ён любіў маляваць, і адначасова яму хацелася стаць вайскоўцам. Сённяшняга Алеся Шатэрніка — таленавітага беларускага скульптара асабіста мне цяжка ўявіць ва уніформе з пагонамі. Ён такі дэмакратычны ў выбары адзення, разняволены, шырокі, адкрыты, па-дзіцячаму шчыры і наіўны, якім можа быць толькі мастак. Відаць, лёсам было наканавана, каб некалі адзінаццацігадовы хлопчык Алесь, які пасляхова здаў іспыты ў Мінскае суворАўскае вучылішча, усё ж не стаў ягоным навучэнцам з прычыны таго, што пры залічэнні на вучобу аддавалі перавагу дзецям-сіротам. Мастакоўскія ж схільнасці хлопчыка фармаваліся пад уплывам стрыечнага брата Васіля, які займаўся ў студыі выяўленчага мастацтва, затым — у вучылішчы, а таксама бацькі, урача па прафесіі, які падчас адпачынку любіў памаляваць. Фарбаў заўсёды бракавала, і даводзілася карыстацца рознымі сродкамі. У памяці Алеся засталіся бацькавы зімовыя краявіды з заснежанымі хаткамі, у вакенцах якіх

НА ЗДЫМКУ: скульптар Алесь ШАТЭРНІК.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Залівістыя пераборы гармонікаў і вясёлыя частушкі запрашалі мінчан прыняць удзел у гарадскім свяце "Мінскі гармонік-98", што праходзіў у Палацы культуры аўтазавода. На плошчы перад Палацам культуры, успамінаючы юнацтва, многія людзі пажылога і сярэдняга ўзросту закруціліся ў танцы. Тут усім было цікава і весела: і артыстам і гледачам.**

НА ЗДЫМКУ: свята "Мінскі гармонік-98"

Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

## МАНГАЗЕЯ ЗАСНАВАНА ЛІЦВІНАМ ЮРЫЕМ ДАЛГУШЫНЫМ

Сібір, якая знаходзіцца на адным Еўразійскім кантыненце з Еўропай і адгароджана ад яе цалкам даступным Урал-Каменем, была тым не менш адкрыта для цывілізаванага чалавецтва на 100 гадоў пазней, чым Амерыка. Аднак пра Капумба вядома амаль усё, а вось наконт Ермака да гэтага часу сумненні — прозвішча гэта ці, можа, мянушка. Жыццё гэтага дзёрзкага і адчайнага казацкага атамана, роля якога ў асваенні Сібіры выключная, амаль незвычайнае, застаецца ў цяні. Што ўжо тады пытацца пра загадкавую "золатакіпячую" Мангазею...

Вядома, розныя чуткі і здагадкі аб Сібіры блукалі на Русі здаўна, і, вядома, якіянебудзь наўгародцы ці ўсцюжанін і гандляваў у яе тундрах, пранікаючы туды і па сушы, і па паўночных морах, але справаздач аб сваім самачынстве нікому не даваў. Ды і само слова "Сібір" з'явілася ў рускіх летапісах толькі ў пачатку XV стагоддзя ў сувязі з забойствам у "сібірскай зямлі" хана Тахтамыша — таго самага, што Маскву спаліў ужо пасля Кулікоўскай бітвы.

Не адразу быў знойдзены кароткі шлях у сібірскія землі. Першыя рускія прамыславікі карысталіся пячорскім "цераземным" шляхам. Тры тысячы вёрстаў ад Вялікага Усцюга да Обі былі не толькі доўгімі, але і небяспечнымі. Надзвычай цяжкім быў перавал праз Урал для волаку пячорскіх суднаў — кочаў. Таму і не скарыстоўваўся гэты шлях для каланізацыі, а заставаўся ўвесь час толькі гандлёвым, які звязваў Пячору з Архангельскам і Паволжам. Быў яшчэ і марскі шлях. Нямала смельчакоў

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*АФІЦЫЙНАЯ ПАЗІЦЫЯ*

## БЕЛАРУСЬ НЕ ПАКІНЕ ЮГАСЛАВІЮ САМ-НАСАМ З НЕБЯСПЕКАЙ

**Ва ўмовах, калі над Югаславіяй згушчаюцца навальнічныя хмары, з якіх на гэтую краіну, што імкнецца самастойна вырашаць свае ўнутраныя праблемы, гатовы пасыпацца натаўскія бомбы і ракеты, Беларусь, якая вуснамі свайго Прэзідэнта недвухсэнсоўна заявіла аб безагаворачнай падтрымцы братоў-славян, застаецца вернай раз і назаўсёды дадзенаму слову, сваім дагаворным абавязацельствам. Кіраўнік беларускай дзяржавы 13 кастрычніка прыняў рашэнне накіраваць у Югаславію дзяржаўную дэлегацыю на чале з дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь — памочнікам Прэзідэнта па пытаннях нацыянальнай бяспекі В. Шэйманам. У дэлегацыю ўваходзяць дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, высокапастаўленыя прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, Міністэрства абароны, Адміністрацыі Прэзідэнта. Як адзначылі ў прэс-службе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнаму сакратару В. Шэйману кіраўніком дзяржавы прадастаўлены самыя шырокія паўнамоцтвы для ўнясення Прэзідэнту прапаноў па аказанні Югаславіі палітычнай, эканамічнай, ваенна-тэхнічнай дапамогі. Пасылаючы гэтую дэлегацыю, Прэзідэнт А. Лукашэнка яшчэ раз падкрэслівае, што Беларусь ніколі не будзе ў баку, калі размова ідзе аб лёсе дружалюбнай Югаславіі, і настойліва патрабуе вырашэння праблемы выключна мірным шляхам.**

**Як паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, А. Лукашэнку ўжо стала вядома аб гатоўнасці некаторых палітычных партый і руху накіраваць сваіх добраахвотнікаў у падтрымку сербаў. Прэзідэнт адмоўна выказаўся аб такіх ініцыятывах, падкрэсліўшы, што Беларусь у стане аказаць Югаславіі істотную дапамогу палітычнымі, ваенна-тэхнічнымі, эканамічнымі сродкамі.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## НЕАБХОДНА РАЗГЛЕДЗЕЦЬ ПЫТАННЕ АБ ЭКАНАМІЧНЫХ САНКЦЫЯХ СУПРАЦЬ БАЛГАРЫІ І РУМЫНІІ

**Каменціруючы па просьбе журналістаў рашэнне Балгарыі і Румыніі дазволіць пралёт бамбардзіроўшчыкаў краін НАТО над тэрыторыямі гэтых дзяржаў, Аляксандр Лукашэнка, які рабіў 13 кастрычніка паездку па спецыялізаваных прадпрыемствах Мінска, заявіў, што "гэта рашэнне ставіць пад удар югаслаўскі народ".**

**Паводле слоў кіраўніка беларускай дзяржавы, "гэта рашэнне можна кваліфікаваць як саўдзел у злачынстве, якое ўчыняецца на Балканах". Таму, лічыць Аляксандр Лукашэнка, "неабходна разгледзець пытанне аб эканамічных санкцыях супраць былых саюзнікаў па сацыялістычнаму лагеру".**

*ВІНШАВАННЕ ПРЭЗІДЭНТА*

## ДЗЕНЬ МАЦІ



**З Днём маці, які святкуюць у нашай краіне 14 кастрычніка, павіншаваў жанчын Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.**

**У пасланні адзначаецца, што гэта свята ўстаноўлена ў гонар самых блізкіх і любімых намі людзей. "Святы вобраз маці заўсёды быў і застаецца ўвасабленнем душэўнай цеплыні і чалавечай шчодрасці. Яе ўнутраны свет — крыніца маральнасці грамадзяніна і патрыёта, творцы і стваральніка. Ужо з першым дыханнем акружае кожнага з нас пяшчотная мацчына любоў. Мудрасць і дабрыня маці даюць нам веру ў жыццё і надзею на лепшае", — так вызначыў кіраўнік дзяржавы значэнне маці ў жыцці кожнага чалавека.**

**Прэзідэнт падкрэсліў, што дзяржава робіць усё магчымае па змякчэнні сацыяльных праблем, паляпшэнні становішча жанчын, пашырэнні іх удзелу ва ўсіх сферах вытворчага і грамадскага жыцця, што асабліва клапаціць ў краіне адрасаваны шматдзетным сем'ям, адзінокім і састарэлым людзям, сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў.**

**Кіраўнік дзяржавы горача падтрымаў высакародную ініцыятыву Беларускага саюза жанчын, Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных грамадскіх аб'яднанняў правесці Дзень маці пад дэвізам "Жанчыны —за духоўнае адраджэнне Беларусі". Гэта дало магчымасць арганізаваць па ўсёй рэспубліцы мерапрыемствы, накіраваныя на аздараўленне і згуртаванне нацыі.**

**НА ЗДЫМКУ: малебен у гонар Дня маці прайшоў у Свята-Духавым кафедральным саборы Мінска.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

*У ЮГАСЛАВІЮ*

## ЛДП РЫХТУЕ ДОБРААХВОТНІКАЎ

**Вышэйшы савет беларускай Ліберальна-дэмакратычнай партыі распаўсюдзіў заяву, падпісаную старшынёй партыі Сяргеем Гайдукевічам.**

**У заяве гаворыцца, што ў апарат ЛДП працягваюць паступаць заявы ад усіх рэгіянальных арганізацый ЛДП з прапановай аказаць усемагчымую дапамогу Югаславіі, што засталася сам-насам з агрэсарам.**

**Вышэйшы савет ЛДП прыняў рашэнне звярнуцца ў пасольства Саюзнай Рэспублікі Югаславіі з прадстаўленнем добраахвотнікаў ад ЛДП з ліку былых афіцэраў спецназа, якія маюць вопыт баявых дзеянняў у рэгіянальных канфліктах. З 9 кастрычніка 1998 года створаны штаб па прыёму добраахвотнікаў, якія маюць розныя ваенныя спецыяльнасці. Начальнікам штаба назначаны палкоўнік А. Кутузаў.**

**Беларуская Ліберальна-дэмакратычная партыя гатова ў выпадку пачатку ваенных дзеянняў выдзеліць гуманітарную дапамогу Саюзнай Рэспубліцы Югаславія на 2 мільёны долараў ЗША.**

*ПАМЯЦЬ*

## 55 ГОД БІТВЫ ПАД ЛЕНІНА




**Пад сялом Леніна Горацкага раёна першая польская пяхотная дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі, сфарміраваная на тэрыторыі СССР з польскіх патрыётаў і ўзброеная савецкай тэхнікай, 12 кастрычніка 1943 года ўступіла ў свой першы бой супраць агульнага ворага — фашысцкіх захопнікаў.**

**У гэтым баі загінулі 502 воіны, 663 прапалі без вестак. Многія памерлі ў шпіталях ад атрыманых ран. На месцы гістарычнай бітвы ўзведзены мемарыяльны комплекс. У Музеі савецка-польскай баявой садружнасці на гранітнай пліце выгравіраваны імёны загінуўшых савецкіх і польскіх воінаў. На ўрачыстасці, прысвечаныя 55-годдзю бітвы пад Леніна, з Польшчы на "поездзе дружбы" прыехалі 100 ветэранаў Войска Польскага. Удзел у іх прынялі таксама ваенныя дэлегацыі міністэрстваў абароны Беларусі, Польшчы і Расіі.**

**НА ЗДЫМКУ: у час урачыстасці.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## «У ГІБЕЛІ МІКАЛУЦКАГА БЫЛІ ЗАМЕШАНЫ МНОГІЯ»

**Аб гэтым заявіў журналістам Аляксандр Лукашэнка 6 кастрычніка пасля цырымоніі закладкі "Алімпійскай вёскі" ў Мінску.**

**"У гадавіну трагічнай смерці старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці, — сказаў Прэзідэнт, — я павінен з чыстым сумленнем падзякаваць нашым праваахоўным органам. У ходзе расследавання гэтай цяжкай справы імі было раскрыта яшчэ 60 розных злачынстваў, у выніку чаго канфіскавана вялікая колькасць стралковай і падрыўной зброі". Паводле слоў кіраўніка беларускай дзяржавы, у арганізатараў забойства Мікалуцкага былі і больш далёкія планы: яны нацэльваліся і на Прэзідэнта, і яго жыццё было на валаску.**

*КРЫМІНАЛ*

## ЗАБІТЫ СВЯШЧЭННІК

**13 кастрычніка ў лясным масіве пры выездзе з Брэста, за 180 метраў ад трасы Брэст—Мінск, быў знойдзены аўтамабіль "Фольксваген-Вента", які належаў епархіяльнаму сакратару Брэсцкай і Кобрынскай епархіі, настаяцелю Свята-Нікалаеўскай царквы протаіерэю айцу Міхаілу. У салоне машыны знаходзіўся яго труп з 12 нажавымі колатымі ранамі грудзей, галавы і нагі. Саракапяцігадовы Міхаіл Сацюк быў адным з самых паважаных служыцеляў праваслаўнай царквы Беларусі.**

**Праваахоўныя органы і іншыя спецыяльныя службы адпрацоўваюць самыя розныя версіі жорсткага забойства. З Мінска ў Брэст тэрмінова прыбыла брыгада вопытных сышчыкаў. Вядома, што апошні раз свяшчэннаслужыцеля бачылі ў 19 гадзін 12 кастрычніка, калі ён ад царквы накіраваўся на сваім аўтамабілі дадому ў вёску Вычулкі, што побач з абласным цэнтрам.**

*З НАВАСЕЛЛЕМ!*





**Віцебскае медыцынскае вучылішча справіла наваселле. У трохпавярховым будынку размясціліся вучэбныя кабінеты і лабараторыі, камп'ютэрная зала, медпункт, зубаўрачэбны кабінет. На трох аддзяленнях тут вучыцца каля 700 чалавек.**

**НА ЗДЫМКАХ: новы корпус медыцынскага вучылішча; на практычных занятках па мікрабіялогіі навучэнкі Наталля ЛІХОНІНА і Марына РУЖЫНСКАЯ.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

*ДАВЕР*

## ВАЛЮТНЫЯ ЎКЛАДЫ

**Штодзённа ў банках Беларусі за кошт укладаў насельніцтва ў СКВ прыбаўляецца прыкладна па 300 тысяч долараў.**

**Гэтыя лічбы сведчаць, што грамадзяне сталі больш давяраць фінансавым установам. Калі ў першых чыслах верасня, у разгар фінансавага крызісу ў Расіі, людзі часцей здымалі грошы з дэпазітаў, чым рабілі уклады, то ўжо ў другой палове месяца прыток сродкаў насельніцтва ў банкі стаў перавышаць іх адток. У сярэднім штодзённа грамадзяне здаюць у банкі валюты на суму каля двух мільёнаў долараў ЗША, у той час як забіраюць 1 мільён 700 тысяч. Усяго ж на 1 кастрычніка ўклады насельніцтва ў СКВ у беларускіх банках склалі каля 161 мільёна долараў.**

*МІЦКЕВІЧ І КУПАЛА*

## ВЫСТАВА Ў МУЗЕІ

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстава "Адам Міцкевіч і Янка Купала". Тут прадстаўлены арыгінальныя экспанаты з фондаў музея беларускага песняра, з калекцый прыватных асоб. Яны расказваюць пра жыццёвы і творчы шлях Адама Міцкевіча, пра дзейнасць Янкі Купалы як перакладчыка твораў паэта на беларускую мову. У прыватнасці, экспануюцца рукапісы перакладаў паэм "Тры Будрысы", "Пані Твардоўска", "Конрад Валенрод". Сярод псеўданімаў, пад якімі друкаваўся Янка Купала, быў псеўданім Вайдэлот. Можна сцвярджаць, што навеяны ён быў паэмай Міцкевіча "Конрад Валенрод".**

**На выставе прадстаўлены "Пісьмы А. Міцкевіча" 1862 года выдання, "Залатыя думкі" і "Конрад Валенрод" пецярбургскага выдання 1895 і 1915 гадоў, зборнік "Паэзія", паэма "Пан Тадэвуш" з асабістай калекцыі У. Луцэвіч, апошнія выданні Міцкевіча (1997—1998 гады).**

**На выставе можна пачуць запіс прамовы Янкі Купалы, з якой ён выступіў на ўрачыстым пасяджэнні ў Маскве ў Калоннай зале 26 лістапада 1940 года ў сувязі з 85-годдзем з дня смерці Адама Міцкевіча.**

*РЭКВІЕМ*



**Тры дзесяткі вёсак спынілі сваё існаванне ў Кармянскім раёне пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У Карме ўзведзены помнік-манумент гэтым населеным пунктам.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

# ДОБРА ТАМ, ДЗЕ НАС НЯМА

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

што знаходзяцца на тэрыторыі нашай краіны. Беларусь разлічвае на адэкватную абарону інтарэсаў сваіх грамадзян у тых дзяржавах, дзе яны працуюць. Ужо ёсць прэцэдэнты. У прыватнасці, беларускія грамадзяне, якія працавалі ў польскім агародніцкім таварыстве "Экамысядла", сутыкнуліся з сітуацыяй, калі наймальнікам былі груба парушаны ўмовы працоўнага дагавора. Умовы размяшчэння, пражывання, аховы і аплаты працы не адпавядалі папярэдняй дагаворанасці. Работнікі звярнуліся ў беларускае консульства і ў польскія праваахоўныя органы. Пытанне было вырашана на карысць нашых працаўнікоў, аднак трэба заўважыць, што дасягнутую перамогу нельга лічыць поўнай, бо ў выніку даны работадавец быў для беларускіх грамадзян страчаны, таму што ў далейшым ён палічыў за лепшае браць на працу ўкраінцаў, якія не так патрабавальныя, згодныя на менш камфортныя ўмовы пражывання і больш нізкую аплату працы. Дарэчы, менавіта таму яны апошнім часам і складаюць асноўную канкурэнцыю беларусам ва ўсіх блізкіх дзяржавах Еўропы.

Цікавасць насельніцтва да работы за межамі краіны пастаянна ўзрастае. Сацыялагічныя апытанні, праведзеныя інстытутам сацыялогіі і службай занятасці, гавораць аб тым, што выехаць за межы краіны на працу жадае 15—35 працэнтаў эканамічна актыўнага насельніцтва. Прычым, чым маладзейшая ўзроставая група, тым больш жадаючых. Даследаванні, якія праводзіліся па Віцебскай вобласці, паказалі, што каля 25 працэнтаў маладых людзей хацелі б, выехаўшы за рубеж у пошуках работы, замацавацца ў эканамічна развітых краінах і застацца там жыць. Аднак зваротная міграцыя ўсё ж з'яўляецца пераважнай формай у сферы знешнепрацоўнай эканамічнай міграцыі, і большасць тых, хто выязджае на працу, імкнецца, зарабіўшы грошы, вярнуцца дадому.

Для краін, якія традыцыйна экспартуюць рабочую сілу на сусветны рынак, такіх, як Філіпіны, Новая Зеландыя, Бангладэш, Іран, Турцыя, грамадзяне, якія працуюць за рубяжом, з'яўляюцца вельмі сур'ёзнай крыніцай валютных паступленняў у эканоміку. Паводле ацэнак экспертаў Міжнароднай арганізацыі працы, адзін працоўны мігрант прыносіць сваёй краіне за год, як мінімум, да дзвюх тысяч долараў. У залежнасці ад кваліфікацыі працуючага гэтая лічба можа быць значна вышэйшай. На Філіпінах прыбытак ад працоўнай міграцыі дасягае 4 мільярдаў долараў у год. Прычым, для атрымання гэтых грошай дзяржаве не трэба прыкладаць ніякіх намаганняў... Беларусь, уключаючыся ў гэты працэс, зведвае вялікія цяжкасці, бо міжнародны рынак працы ўжо падзелены і знайсці там сваё месца сёння вельмі цяжка. Больш таго, для многіх развітых краін, напрыклад, Германіі, залішняя колькасць увезенай у перыяд уздыму эканомікі таннай рабочай сілы ператвараецца ў сур'ёзную праблему.

Колькасць людзей, што едуць працаваць за мяжу па афіцыйных каналах, расце, але вельмі марудна: у 1994 годзе, па афіцыйнай статыстыцы, фірмамі-пасрэднікамі было адпраўлена за рубеж 1 314 чалавек, у 1996 годзе — 1 894 чалавекі, летась — 3 226. Такія нізкія паказчыкі абумоўлены, у першую чаргу, тым, што мы спрабуем прабіцца на заходні рынак рабочай сілы, які ўжо сфарміраваўся і запоўнены да канца, ды яшчэ тады, калі заходнія краіны зрабілі больш жорсткімі ўсе формы ўязнога, таможнага і іміграцыйнага кантролю, аддаючы перавагу абмену рабочай сілай сярод "сваіх". У многіх краінах, як, напрыклад, у Даніі, прафсаюзы, абараняючы інтарэсы сваіх грамадзян, блакіруюць паступленне замежнай рабочай сілы на рынак нават на сезонныя работы. Яшчэ адна праблема заключаецца ў тым, што ў многіх краінах няма ні беларускіх пасольстваў, ні знешнеэканамічных прадстаўніцтваў, а сувязі, што існавалі раней у рамках СССР, парушыліся. Акрамя таго, як ужо было заўважана, мы зведваем вялікую канкурэнцыю з боку нашых суседзяў, і ў першую чаргу, Украіны.

На сённяшні дзень больш за ўсё беларусаў працуе ў Расіі. Назваць дакладную лічбу тут вельмі цяжка, бо ў нас з Расіяй у адпаведнасці са Статутам Саюза створаны аднолькавыя магчымасці для абмену працоўнымі рэсурсамі і ажыццяўляецца безліцэнзійны абмен рабочай сілай. Нямала беларусаў працуе на нафтаперапрацоўчым комплексе ў Заходняй Сібіры, нашы суайчыннікі заўсёды цаніліся, як добрыя будаўнікі, якіх з задавальненнем бралі на работу і ў самой Маскве. Ёсць падставы лічыць, што ў Расіі сёння працуе прыкладна палавіна ўсіх працоўных мігрантаў з Беларусі.

Спрабуючы забяспечыць максімальна магчымы на даным этапе выхад на міжнародны рынак працы, Беларусь заключае пагадненні аб абмене рабочай сілай з іншымі дзяржавамі, у прыватнасці, з Расіяй, Малдовай, Украінай, Казахстанам, Польшчай, Літвой. У стадыі прапрацоўкі знаходзяцца міжурадавыя пагадненні па абмену працоўнымі рэсурсамі з Арменіяй, Чэхіяй, падрыхтаваны праект пагаднення з Югаславіяй. Аднак абмен з гэтымі дзяржавамі ў рамках вышэйпамянёных пагадненняў, за выключэннем Расіі, нязначны. Напрыклад, на тую ж Украіну беларусы не едуць увогуле, там хапае сваіх беспрацоўных.

Да мінулага года сур'ёзным імпарцёрам беларускай рабочай сілы была Польшча, сёлета яе месца заняла Чэхія. Апошнія два гады чэшскі рынак працы зведаў сур'ёзную патрэбу ў рабочай сіле, і за два гады колькасць толькі легальных мігрантаў вырасла ад ста да васьмісот чалавек. Аднак, як вядома, далёка не ўсе нашы суайчыннікі, трапіўшы за мяжу, спяшаюцца стаць на консульскі ўлік, і рэальныя лічбы, як правіла, намнога вышэйшыя.

Нягледзячы на тое, што ФРГ актыўна супрацоўнічае практычна з усімі краінамі, што нас акружаюць, па праграме занятасці іншаземцаў з мэтай павышэння іх прафесійных і моўных навыкаў Беларусь застаецца сумным выключэннем. Наш прафесіяналізм мы будзем павышаць самастойна... Спрабуе Беларусь выйсці на кітайскі рынак працы. Даведаўшыся аб тым, што Кітай звярнуўся ў МАП з просьбай распрацаваць праграму імпарту высокакваліфікаваных спецыялістаў для мадэрнізацыі сваёй эканомікі, Беларусь распрацавала пагадненне аб накіраванні нашых тэхнічных спецыялістаў у гэтую краіну. Органы дзяржаўнага кіравання КНР праявілі пэўную цікавасць да гэтага праекта, аднак пакуль гаварыць аб канкрэтных выніках рана.

Знешнепрацоўная міграцыя прадастаўляе шырокае поле дзейнасці для рознага тыпу злоўжыванняў і махінацый. Летась у Гродне была спынена нелегальная дзейнасць фірмы "Мерана". Яе дырэктар, які сабраў з грамадзян і прысвоіў вялікія сумы грошай, быў аддадзены пад суд. У гэтым годзе таксама была спынена дзейнасць цэлага шэрагу фірм з-за невыканання ўзятых абавязацельстваў. Нярэдка такія фірмы прыцягваюць будучых наёмных рабочых высокімі заробкамі і камфортнымі ўмовамі пражывання ў Батсване ці іншых такіх жа экзатычных краінах, дзе адсутнічаюць беларускія дыпламатычныя органы, і праверыць дакладнасць гэтай інфармацыі практычна немагчыма.

Аднак было б памылкай лічыць, што выключна айчынныя фірмы маюць нейкія ўласныя мэты, даючы аб'явы "Запрашаем на работу". Заходнія партнёры маюць больш вопыту, і, на жаль, не толькі ў справе аказання пасрэдніцкіх паслуг. Найбольш распаўсюджаны від махлярства — сабраць грошы пад выглядам выгаднага працаўладкавання за рубяжом, а затым бясследна знікнуць. Па інфармацыі міжнароднай арганізацыі па працоўнай міграцыі, адзін нелегальна ўвезены ў краіну працоўны мігрант каштуе пяць тысяч долараў...

Але не толькі беларусы шукаюць лепшай долі за рубяжом, грамадзяне іншых краін таксама спрабуюць знайсці працу на тэрыторыі нашай дзяржавы.

Апошнім часам Камітэт па міграцыі адсочвае ўезд замежных грамадзян у краіну. Некаторы час назад гэты працэс працякаў вельмі марудна, што прыводзіла да сапраўды камічных сітуацый. 30 замежных рабочых без ліцэнзій ударнымі тэмпамі пабудавалі будынак "Прыорбанка" па вуліцы Варвашэні ў Мінску і зусім не заўважанымі вярнуліся дамоў. Інфармацыя аб працавітых нелегалах стала здабыткам адпаведных службаў толькі пасля іх ад'езду... Дынаміка ўезду стала значна больш інтэнсіўнай, многія прыязджаюць па дагаворах з гаспадаркамі, фірмамі, ствараецца мноства прадпрыемстваў з замежным і змешаным капіталам. Хочацца спадзявацца, што закон "Аб знешнепрацоўнай міграцыі" дапаможа вырашыць шматлікія праблемы, звязаныя з працоўнай міграцыяй, аднак, як паказвае вопыт, многія грамадзяне адпраўляюцца на працу за мяжу самастойна, на свой страх і рызыку, і гэтыя працэсы будуць працягвацца да таго часу, пакуль працаўладкаванне на радзіме не стане прыцягваць больш, чым поўнае небяспекі, часта бяспраўнае і нелегальнае існаванне ў далёкіх краінах, дзе мы патрэбны толькі ў якасці чорнарабочых.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*АДМЕТНАСЦЬ НЯСВІЖА*

# І ГОНАР, І СЛАВА, І ПРЫЗНАННЕ













У Нясвіжы, горадзе беларускай славы, шмат адметнасцяў. Адна з іх — парк. Я, калі жыў у старажытным горадзе, часта хадзіў палюбавацца яго красой, пабыць сам-насам з прыродай, адпачыць. Ведаю кожны куточак у парку, а ён самы вялікі і прыгожы ў Беларусі, займае 108 гектараў.

Вось ліпавая алея. Старыя дрэвы шырока раскінулі пышныя кроны. Густыя галіны звісаюць аж да зямлі. А напоўніцца паветра водарам буйнай квецені — не надыхацца. За ліпавай — грабавая алея. Дрэвы стройныя, крыху змрочныя. Каля алеі — грабавы гушчар, у ім заўсёды свежа, ціха.

На светлых палянах, вакол іх раскашуюць групы дрэў — каштаны, елкі, сосны, клёны... Упрыгажэнне парку — скульптуры, асабліва бюсты выдатных людзей, жыццё і творчасць якіх цесна звязана з Нясвіжам. Кожны з іх — гонар нацыі. Кожны шмат зрабіў для Бацькаўшчыны, стаў вядомы далёка за яе межамі.

Князь Юрый Нясвіжскі ўпамінаецца ў летапісе пад 1223 годам. Ён загінуў у бітве з татарамі на рацэ Калка. Так і хочацца пастаяць перад яго бюстам, падумаць, заглянуць праз час у глыбіню стагоддзяў. Але маўчыць князь. Ён сам нібы ўглядаецца ў будучыню, хоча ўявіць, як будуць жыць новыя пакаленні, за добры лёс якіх ён аддаў сваё жыццё. 1223-ці лічыцца годам заснавання Нясвіжа.

Мікалай Крыштоф Сіротка (памёр у 1616 годзе) вызначыўся і застаўся ў памяці пакаленняў вялікімі справамі. Асаблівую ўвагу звярнуў на будаўніцтва ў горадзе. Пры ім узведзены каменны палац, фарны касцёл, чатыры ўязныя вежы і іншыя збудаванні. Многія з іх захаваліся да нашых дзён.

Мікалай Сіротка клапаціўся пра асвету, кнігадрукаванне. У 1562 годзе ў нясвіжскай друкарні Сымон Будны выдаў "Катэхізіс" — першую кнігу на беларускай мове, пасля іншыя творы. Сам Сіротка падарожнічаў па Егіпце, Сірыі, Палесціне і напісаў кнігу, яна на розных мовах выдавалася каля дваццаці разоў.

Італьянскі архітэктар Ян Марыя Бернардоні, запрошаны М. Сіроткам, удзельнічаў у будаўніцтве палаца, фарнага касцёла. Асабліва прыгожы касцёл. Вялікі будынак цудоўнай архітэктуры здаецца лёгкім, сонечным. Любуюцца збудаваннямі тысячы турыстаў з усяго свету. Выдатныя помнікі архітэктуры сталі ўзорам будаўнічага майстэрства, пра іх расказваецца ў падручніках, энцыклапедыях розных краін.

Аматарам беларускай даўніны добра вядомая мапа Вялікага Княства Літоўскага. Зрабіў яе па прапанове таго ж М. Сіроткі Тамаш Макоўскі. Ён быў высокаадукаваным чалавекам, працаваў каморнікам пры двары князёў Радзівілаў, узначальваў друкарню. Зрабіў некалькі гравюр Нясвіжа. Гэты вопыт і дапамог яму стварыць мапу ВКЛ. На яе гравёр, мастак, вучоны, даследчык патраціў шаснаццаць гадоў напружанай працы, аб'ездзіў усю дзяржаву. Мапа была надрукавана ў Амстэрдаме. Унікальнае выданне мела дасканалае апісанне эканомікі, гандлю, адукацыі і іншых сфер дзейнасці таго часу, а таксама прыроды, яе багаццяў. Цяпер мапа захоўваецца ў Швецыі.

Творчасць Т. Макоўскага разнастайная. Але найбольш праявіў ён сябе ў гравюрах. На іх адлюстраваны Вільня, Трокі, Клецк, Смаленск, іншыя гарады. Ён ілюстраваў многія кнігі, якія пабачылі свет у Нясвіжы, у іншых гарадах ВКЛ, у Заходняй Еўропе. Т. Макоўскі склаў план Масквы, выгравіраваны ў нясвіжскай майстэрні, на ім дэталёва адлюстраваны не толькі сам горад, але і яго наваколле. Кнігі, аформленыя Макоўскім, яго карты неаднаразова перавыдаваліся і ў ВКЛ, і за мяжой.

Лірнікам вясковым назвалі Уладзіслава Сыракомлю (1823—1862). Ён жыў у Нясвіжы, вучыўся. Працаваў у канцылярыі Радзівілаў. Напісаў шмат на польскай і беларускай мовах. Толькі паэтычных твораў выдадзена ў Варшаве ў 1872 годзе дзесяць тамоў. Напісаў цікавыя нарысы, у якіх расказана пра Нясвіж, Мінск, Мір, Гарадзею, Койданава і іншыя гарады. Пісаў пра звычаі, мову народа. Адстойваў беларускасць. Ён першы крытык новай беларускай літаратуры. А яго першы друкаваны верш "Паштальён", перакладзены на рускую мову, стаў вядомай песняй "Ямщик" ("Когда я на почте служил ямщиком").

У. Сыракомля быў чалавекам перадавых поглядаў, настроены рэвалюцыйна. Трымаў сувязь з тымі людзьмі, якія рыхтавалі паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Магчыма, і яго напаткаў бы лёс катаржніка, каб не заўчасная смерць.

Шосты бюст — Якуба Коласа. Народны пясняр вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Уражанні ад Нясвіжа засталіся на ўсё жыццё. Ён неаднойчы дзяліўся імі, згадваў горад у "Новай зямлі". А ў паэму "Сымон-музыка" перанёс многія падзеі. І як хораша яны апісаны. Якія яркія малюнкі.

**А тут што ні крок, то дзіва,**
**Нібы баечны то кут!**
**Хлопец стаў, глядзіць маўкліва —**
**Хараство, багацце, цуд!**

Ні малады нясвіжскі семінарыст, ні сталы народны паэт, пішучы свае радкі, і не думаў, што нашчадкі ўшануюць яго памяць бюстам менавіта ў нясвіжскім парку, які ён так упадабаў. Ды яшчэ ў кампаніі такіх слынных людзей. Яны пакінулі яркі след у гісторыі Беларусі, у фарміраванні беларускай нацыі, развіцці яе культуры, навукі, архітэктуры, літаратуры, мастацтва, у розных іншых галінах грамадскага жыцця.

Застаецца падзякаваць скульптарам Льву Гумілеўскаму, яго сыну Сяргею і Міхаілу Канцавому, якія зрабілі гэтыя скульптуры.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: скульптуры Юрыя Нясвіжскага, Мікалая Сіроткі, Яна Бернардоні, Тамаша Макоўскага, Уладзіслава Сыракомлі, Якуба Коласа.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 7-8

*27 жніўня — 3 верасня адбылася важная падзея ў навуковым жыцці: у Кракаве прайшоў XII Міжнародны з'езд славістаў, у якім прыняла ўдзел і вялікая дэлегацыя навукоўцаў з нашай краіны. У сувязі з гэтым чарговы нумар бюлетэня прысвяціў шэраг матэрыялаў славістычнай праблематыцы. Змешчаны артыкул У. Мархеля "Пан Тадэвуш" і "Новая зямля", або Дзве ментальнасці аднаго архетыпа", тэксты дакладаў А. Ніякоўскай "Максім Багдановіч і славянскі мадэрнізм", Г. Тварановіч "Тыпалогія сувязей беларускай і харвацкай літаратур" (Мікола Гусоўскі — Іван Гундуліч), З. Шыбекі "Ідэя славянскай салідарнасці ў палітычным жыцці Беларусі 1905—1921 гг." Сярод іншых матэрыялаў прапануюцца гутарка навуковага супрацоўніка Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны Ю. Вашкевіча з навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнага архіва ў Беластоку, даследчыкам праблем гісторыі беларускага школьніцтва ў Польшчы С. Іванюком "Беларуская адукацыя ў Польшчы", артыкулы У. Конана "Лідэр беларускага каталіцкага адраджэння" (пра Адама Станкевіча), Я. Адравонж-Пянёнжака "Яшчэ раз пра міцкевічаўскае Завоссе", М. Гардзеева "Новыя звесткі да біяграфіі Сімяона Полацкага", публікацыі ў раздзелах "Беларускае замежжа", "Рэцэнзуем кнігі", "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў свеце", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця".*

*ПОСТАЦІ КУЛЬТУРНАГА ПАМЕЖЖА*

# ЛІДЭР БЕЛАРУСКАГА КАТАЛІЦКАГА АДРАДЖЭННЯ

АДАМ СТАНКЕВІЧ быў з тых слаўных рыцараў беларускага нацыянальнага Адраджэння, якія апошнімі вяртаюцца ў нашую абкрадзеную гістарычную і культурную традыцыю. Бальшавікі помсцілі яму пры жыцці за ахвярную службу Беларусі. Помсцілі і пасля пакутнай смерці, замучыўшы яго ў сібірскім ГУЛАГу. Помсцілі нават пасля хрушчоўскай "адлігі" (1956—1964) — інфармацыйнай блакадай, замоўчваннем самога імя Адама Станкевіча; яно доўга не трапляла ў энцыклапедычныя выданні. Бальшавікі-чарнасоценцы не могуць дараваць яму трох рэчаў: беларускага патрыятызму, беларускага каталіцтва і службы Маці-Радзіме ў трагічныя 1939—1945 гады.

Але судзіць за каталіцтва і патрыятызм было няёмка нават бальшавікам. Яны прыдумалі здзеклівае абвінавачванне: поруч з "антысавецкай прапагандай" (вядомы 58-мы артыкул Крымінальнага кодэкса РСФСР) Станкевічу інкрымінаваўся шпіянаж на карысць Японіі. Прысуд адбыўся 31 жніўня 1949 года, а 14 снежня таго ж года пакутнік з Беларусі памёр. Вось даведка МУС СССР, выдадзеная Беларускаму музею гісторыі рэлігіі (Гродна) у 1990 годзе: "Сообщаю, что по учетам ИЧ УВД есть Станкевич Адам Викентьевич, 1891 года рождения, осужден Особым Совещанием МГБ СССР 31.VIII.1949 г. по ст. 58 УК РСФСР на 25 лет лишения свободы. Умер 4.XII.1949 г. от ожирения сердца. Похоронен на кладбище Озерлага вблизи дерев. Шевченко Тайшетского района, могила 3-43. Начальник отдела В. В. Пятница".

Літаратурная і навуковая спадчына А. Станкевіча шматгранная, ахоплівае гісторыю Беларусі і нацыянальнай культуры, беларускі нацыянальна-вызваленчы і хрысціянскі рух, літаратуразнаўства, тэалогію, касцельнае красамоўства, літоўска-беларускія моўныя ўзаемасувязі, шматтэмную публіцыстыку. Ён аўтар дзевятнаццаці кніг і брашур, каля тысячы артыкулаў, нататак, не заўсёды падпісаных, шматлікіх рэдакцыйных матэрыялаў у штотыднёвіку "Крыніца", часопісе "Хрысьціянская думка" і іншых выданнях. Усе яны выдаваліся ў Вільні. Сярод іх — манаграфіі "Родная мова ў сьвятынях" (1929), "Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня" (1939), "Беларускі хрысьціянскі рух" (1939), "Хрысьціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы" (1940), брашуры "Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі: 1525—1925" (1925), "Вітаўт Вялікі і беларусы" (1930), "Беларуская мова ў школах Беларусі XVI і XVII ст." (1928), "Франціш Багушэвіч. Яго жыцьцё і творчасьць" (1930), "Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцьця і працы" (1934), "Магнушэўскі. Паўлюк Багрым. Баброўскі" (1937), "Казімер Сваяк. Нарысы аб яго ідэялёгіі" (1931), "З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка" (1936), "Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песьня" (1938), "На сьвята маткі" (1940).

А яшчэ былі унікальны ў беларускай багаслоўскай літаратуры зборнік "Божае Слова. Лекцыі, эвангэліі і прамовы на нядзелі і сьвяты" (Львоў; Вільня, 1938), "Беларускі каляндар "Крыніца" на 1920 год" (Вільня, 1919). Былі яшчэ шматлікія артыкулы ў віленскіх газеце "Крыніца" (1917—1940), часопісах "Хрысьціянская думка" (1928—1939) і "Калосьсе" (1935—1939), заснавальнікам і адным з рэдактараў, а найбольш аўтарам якіх быў А. Станкевіч.

Здзіўляе навуковая і літаратурная, сапраўды рэнесансавая шматграннасць творчасці ксяндза Станкевіча. Ён не толькі тэолаг, гісторык, філосаф, публіцыст, журналіст і кнігавыдавец, але яшчэ літаратуразнаўца, літаратурны крытык і лінгвіст. У часопісе "Калосьсе" ён апублікаваў цыкл лінгвістычных і сацыяльна-філасофскіх нарысаў "Асабовыя назвы па бацьку ў беларусаў" (1935, № 2), "Беларускія філамацкія вершы Яна Чачота" (1935, № 3); "Цені і блескі: Да лозунгу "Культура нацыянальная формай, камуністычная зместам" (1935, № 4), "Доктар Франціш Скарына і яго культурная праца" (1936, № 2, 3), "У палоне паэзіі Якуба Коласа" (1936, № 5), шэраг нататак "З літуанізмаў у беларускай мове" (1938, № 1; 1939, № 1, 3).

У тым жа "Калосьсі" (1937, № 4) А. Станкевіч апублікаваў рэцэнзію на паэму выдатнага беларускага паэта Максіма Танка (Яўгена Скурко) "Нарач", што друкавалася асобнаю кніжкаю (Вільня, 1937). А па сутнасці, атрымаўся першы філасофска-эстэтычны аналіз ранняй творчасці паэта пад назваю "У аспекце сацыяльнай справядлівасці".

Мая задача — пазнаёміць чытачоў з рукапіснай спадчынай А. Станкевіча, у першую чаргу з ягонымі запісамі аб перспектыве развіцця Беларускага Касцёла, напісанымі ў Вільні ў 1944—1949 гадах і адрасаванымі Савецкаму ўраду. Але спачатку прапаную кароткую біяграфічную даведку.

Адам Станкевіч нарадзіўся 24 снежня (па ст.ст.) 1891 года ў вёсцы Арляняты Крэўскай воласці, Ашмянскага павета. З гэтых Арлянятаў вылецелі аж тры Станкевічы, выдатныя беларускія дзеячы: Адам, Ян і Станіслаў. Тры арлы з аднаго гнязда! Адам Станкевіч, сын селяніна-паўвалочніка Вінцэнта і сялянкі Антаніны з роду Дасюкевічаў, католікаў з колішніх уніятаў. З дзяцінства памагаў па гаспадарцы, а зімою вучыўся ў вясковых "дарэктараў". Паступіў спачатку ў праваслаўную царкоўнапрыходскую школу (Баруны), пазней перавёўся ў народную школу пры Гальшанскім касцёле (1902—1904), скончыў Ашмянскае гарадское вучылішча (1904—1908), пасля падрыхтоўкі ў прыватных настаўнікаў вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі (1910—1914). Там далучыўся да беларускага культурна-нацыянальнага руху пад уплывам "Нашай нівы" (1906—1915).

Як беларускі дзеяч, даследчык і пісьменнік, змагар за беларусізацыю касцёла сфарміраваўся ў Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі (1914—1918) пад уплывам сваіх папярэднікаў па гэтай акадэміі, таксама выдатных беларускіх ксяндзоў (А. Цікота, П. Пякарскі, В. Гадлеўскі) і найперш у гуртку прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. Там жа пасвячоны ў ксяндзы, здаў экзамены і абараніў тэзісы на кандыдата багаслоўя, рыхтаваў магістарскую дысертацыю "Вучэнне св. Тамаша Аквінскага пра сям'ю ў параўнанні з сучаснай тэорыяй вольнага саюзу". Але цалкам захоплены актуальнымі праблемамі нацыянальнага адраджэння, страціў цікавасць да гэтай тэмы, застаўся ў званні кандыдата багаслоўя. Супрацоўнічаў у "Нашай ніве", "Светачы", "Дзянніцы", "Гомане". З 1917 года пачаў сваю касцельна-асветніцкую і пастырскую дзейнасць спачатку ў Дзісенскім, пазней у Віленскім Свята-Мікольскім і іншых касцёлах. Амаль усё сваё творчае жыццё правёў у Вільні, за выключэннем кароткай ссылкі ў Слонім (1939).

А. Станкевіч быў сярод першых ксяндзоў, якія пачалі беларусізацыю касцёла — гаварылі казанні і праводзілі дадатковую службу па-беларуску. У 1917 годзе ксёндз Станкевіч — адзін з заснавальнікаў Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці (ХДЗ), пазней пераўтворанай у партыю Беларуская Хрысціянская дэмакратыя (БХД). У 1927 годзе ён заснаваў і выдаваў часопіс "Хрысьціянская думка", дзе друкаваліся яго шматлікія творы. Сем гадоў (1922—1928) быў паслом Сейма Рэчы Паспалітай Польскай ад беларускага народа, адным з кіраўнікоў Беларускага пасольскага клуба (1922—1930), Беларускага нацыянальнага камітэта (1921—1938), Таварыства беларускай школы (1921—1937), Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (1926—1936), духоўным кіраўніком Беларускага студэнцкага саюза (1930—1939, з 1935 года пад назваю Беларускае студэнцкае таварыства Ф. Скарыны).

Шмат папрацаваў на ніве нацыянальнай адукацыі ў Заходняй Беларусі, быў пэўны час дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. У Беларусі пад нямецкай акупацыяй поруч з касцельнай службай быў адным з ініцыятараў адраджэння беларускай школы на роднай мове. Яго дзейнасць гэтага перыяду яшчэ не даследавана. Захаваўся рарытэт — нідзе не зарэгістраваная кніжачка (31 старонка): "Патрэбнейшыя вынияткі з Рытуала. На беларускую мову перакладаў і выдаў кс. Ад. Ст." (Вільнюс, 1943).

Пасля заняцця Вільні Савецкай Арміяй А. Станкевіч быў узяты пад пільны нагляд. Захаваўся кароткі пратакол вобыску на ягонай кватэры 22 мая 1941 года, у якім занісана: узяты пашпарт, асабістая парапіска і кнігі. Другая "сустрэча" адбылася ў канцы 1944 года, адразу пасля заняцця Савецкай Арміяй Вільні: Адама Станкевіча арыштавалі, пазней вызвалілі. Урэшце, справа закончылася 25-гадовай катаргай — тагачасным "эквівалентам" смяротнай кары.

У Нацыянальным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі захаваліся фрагменты былога Беларускага музея ў Вільні імя Івана Луцкевіча. Сярод іх рэферат "Беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы" (машынапісны тэкст на нямецкай мове, 42 лісты, 1936 год). Аўтар паказвае, як гэта здарылася, што народ з тысячагадовай дзяржаўнай і культурнай традыцыяй аказаўся "меншасцю" на сваёй Богам абяцанай зямлі.

Сёння варта пахваліць дырэкцыю Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. 25 гадоў таму назад, калі ў Савецкім Саюзе творы Адама Станкевіча былі пад забаронай, яна паслухалася свайго дарадца Адама Мальдзіса і набыла ў гаспадыні ксяндза, ягонай сваячкі Марыі Шутовіч асабісты архіў, рэдкія кнігі з яго бібліятэкі (сярод іх — польскія касцельныя энцыклапедыі). У архіве ёсць нідзе не апублікаваныя творы, даследаванні па гісторыі Беларусі, дзве аналітычныя запіскі Савецкаму ўраду, рэферат "Этычныя асновы народных і культурных правоў нацыянальных меншасцяў" (датавана 8 мая 1937 года). З прадмовы да рэферата вынікае, што аўтар рэферата выступаў як прадстаўнік Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні (пераемнік Беларускай Хрысціянскай дэмакратыі) на Кангрэсе нацыянальных меншасцей у Лондане (14—15 ліпеня 1937 года). Скарочаны варыянт даклада друкаваўся па-беларуску ў часопісе "Калосьсе" (1937, № 3).

Тры наступныя рукапісы А. Станкевіча з гэтага фонду ёсць комплекснае гісторыка-культурнае, тэалагічнае і грамадска-палітычнае абгрунтаванне неабходнасці беларусізацыі Касцёла ў пасляваеннай Беларусі, распрацоўка эфектыўных і пахрысціянску гуманных метадаў яго ўключэння ў кантэкст беларускай нацыянальнай культуры. Усе рукапісы-аўтографы напісаны чорным чарнілам з праўкамі рукою аўтара, часткова на лістках блакнота і найбольш — на адваротным баку бланкаў Упраўлення кніжнага гандлю БССР (Віленскі аддзел).

Першы дакумент называецца "Праблемы Каталіцкага Касцёлу ў БССР" (арк. 1—10), напісаны па-беларуску ў форме тэзісаў, датаваны алоўкам: "Вільня, 25.X.[19]44 г."

Два наступныя дакументы — гэта дзве аналітычныя запіскі, гісторыка-тэарэтычнае, рэлігійнае і палітычнае абгрунтаванне думак, выкладзеных раней у тэзісах. Абодва напісаны па-руску для канкрэтнага адрасата — савецкага кіраўніцтва. Пра гэта сведчаць назвы дакументаў: першы называецца "Католическая проблема в БССР" (К сведению правительства СССР"). На апошняй старонцы пазначана: "3.XII.[19]45 г., Вільня". І подпіс А. Станкевіча. Другі дакумент называецца "Католический вопрос в БССР и проблема его разрешения. Вильня, март, 1947". Сінім алоўкам дабаўлена: "К сведению Сов. Правительства". У канцы скарочаны подпіс: Ад. Ст.

Па сутнасці, у архіве А. Станкевіча захавалася грунтоўная манаграфія пра каталіцтва ў Беларусі, яго сучасны стан і праблемы адаптацыі Касцёла да кантэксту беларускай культуры. Канцэптуальнае даследаванне з трох частак у жанры аналітычных запісаў Савецкаму ўраду. Першая частка — уступ у форме тэзісаў; другая частка — гісторыка-тэарэтычная і тэалагічная распрацоўка тэмы; трэцяя частка — навукова-практычная, абгрунтаваны праект стварэння аўтаномнага, незалежнага ад польскага епіскапства, адаптаванага да беларускага культурна-нацыянальнага кантэксту Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

Заключная частка першай запіскі А. Станкевіча датычыцца лёсу Каталіцкага Касцёла і яго святароў. Яго рэкамендацыі застаюцца актуальнымі і сёння. У перспектыве, на яго думку, неабходна беларускае епіскапства, кананічна залежнае толькі ад папы рымскага. Але пачаць рэформу можна з часовага кіраўніцтва Беларускім Касцёлам на чале з літоўскім архіепіскапам Райнісам як апостальскім адміністратарам. Аўтар праекта, праціўнік любых гвалтаў і рэвалюцый, рэкамендаваў правесці гэтую рэформу паступова і без гвалту. Бо каталіцтва ў сваёй польскай форме ўрастала ў беларускую глебу каля 500 гадоў. Таму яго беларусізацыя "павінна праводзіцца строга эвалюцыйна, паступова, але тым не менш упэўнена і рашуча..."

Свой другі мемарандум Савецкаму ўраду Адам Станкевіч закончыў ветліва, але таксама рашуча і ўзнёсла, верагодна, падводзіў вынікі свайго ахвярнага жыцця.

Трэцюю сваю запіску (праект стварэння Беларускага Касцёла) ён закончыў у снежні 1947 года. А 31 жніўня 1949 года бальшавіцкі суд засудзіў аднаго з гуманных і таленавітых сыноў Беларусі да 25 гадоў сібірскай катаргі. Там, у глухім Тайшэце Іркуцкай вобласці, ён і загінуў праз тры месяцы пасля адпраўкі. Былі знішчаны альбо падаўлены ўсе яго сябры па беларускаму каталіцкаму руху. Фабіян Абратновіч арыштаваны адразу ж пасля захопу бальшавіцкім войскам Вільні ў 1939 годзе і загінуў у расійскай ссылцы (1940). Вінцэнт Гадлеўскі (1898—1942) закатаваны нямецкімі гестапаўцамі ў 1942 годзе. Станіслаў Грынкевіч (1902—1945) расстраляны па прыгавору бальшавіцкага трыбунала 18 мая 1945 года. Недзе тады ж загінуў бясследна Ян Пазняк, адзін з рэдактараў газеты "Крыніца". Загінула шмат і іншых ксяндзоў, вядомых і невядомых змагароў за Беларусь і Беларускі Касцёл.

Удалося выратавацца Восіпу (Язэпу) Германовічу (1890—1976): ён таксама быў прыгавораны да 25-гадовага зняволення ў расійскіх канцлагерах (1948), але выпушчаны ў 1955 годзе (верагодна, "па недагляду" ідэалагічнай паліцыі), здолеў выехаць за мяжу, набыў вядомасць як беларускі пісьменнік пад псеўданімам Вінцук Адважны.

Як сёння ўжо добра вядома, бальшавікі знішчалі і падаўлялі беларускую нацыянальную эліту, пачынаючы з 1929—1930 гадоў, учынілі пагром пісьменніцкіх арганізацый, Беларускай акадэміі навук, асветнікаў і грамадска-палітычных дзеячаў. Але ці ведаў Адам Станкевіч д'ябальскую антыхрысціянскую і антыбеларускую прыроду гэтай праявы апакаліптычнага звера? Верагодна, ведаў, але рабіў тое, што належыць хрысціяніну: прапаведаваў і бальшавікам (як прапаведаваў Ян Хрысціцель цару Іраду). Але гэты звер аказаўся больш няўмольным і непараўнальна больш злым, чым тыя лагодныя ваўкі, львы і тыгры, якім прапаведавалі і якіх загаворвалі прарокі і святыя.

Сялянскі сын Адам Станкевіч быў і застанецца да сканчэння зямнога веку беларускім прарокам і святым мучанікам.

Мне застаецца назваць апошнія навукова-асветныя рукапісы А. Станкевіча, якія ён распачаў у ваенныя 1940—1944 гады, але не паспеў закончыць, бо ў савецкі час бараніў духоўныя набыткі беларусаў, прапаведаваў высокую мараль бальшавіцкай уладзе, урэшце, пакутаваў у астрогах і на сібірскай катарзе. Усе яны захоўваюцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Ад ваенных часоў захаваўся чарнавы рукапіс "Расказы з гісторыі Беларусі для школ", пачаты, верагодна, каля 1940 года. Захаваўся канвалют з 111 аркушаў, напісаных ад рукі, часткова надрукаваных на машынцы, месцамі ёсць падклейкі карэктурных лістоў, узятых з ранейшых публікацый. Мова ўсюды беларуская. Канцэпцыя аўтара — нацыянальна-беларуская, яна выяўляецца ўжо ў назвах раздзелаў і параграфаў. Да кожнага раздзела прыкладзены пытанні для вучняў.

Тады ж, у час вайны, Адам Станкевіч задумаў і да свайго першага арышту (1944) часткова ажыццявіў фундаментальнае комплекснае даследаванне пад назваю "Гісторыя Беларусі (Сістэматычны нарыс)". Гэта чарнавы, але ўжо падрыхтаваны да перадруку рукапіс, 155 старонак, з нешматлікімі праўкамі, устаўкамі машынапісных і друкаваных лістоў.

**Уладзімір КОНАН.**
**("Кантакты і дыялогі").**

# МАНГАЗЕЯ ЗАСНАВАНА ЛІЦВІНАМ ЮРЫЕМ ДАЛГУШЫНЫМ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

паглынуў каварны Паўночны акіян, іх імёны згубіліся ў вечнасці...

Рускія паморы з даўніх часоў хадзілі да Шпіцбергена, але гэта па адкрытай вадзе, па цёпламу цячэнню. А вось на ўсход, скрозь арктычныя льды плаваць асцерагаліся: раптам ільды затруць маленькае судна, і зваротнага шляху ўжо няма. Пагібель верная ў ільдах ды ў снягах!.. Па тым часе нават Вілем Баранц, славуты галандскі мараплавец, які кіраваў экспедыцыяй у пошуках паўночнага праходу з Атлантыкі ў Ціхі акіян, далей Новай Зямлі прабіцца не змог і знайшоў на гэтым востраве ў 1597 годзе сваю магілу.

Па іроніі лёсу ў гэтым жа годзе, у год смерці Баранца, рускія паморы, выйшаўшы на кочах з вусця Пячоры ў адкрыты акіян, абышлі вакол Ямала і ўздоўж узбярэжжа Карскага мора выйшлі ў Обскую губу. Хто кіраваў гэтымі смельчакамі, хто першым адважыўся ісці па Ледавітым акіяне на ўсход? Як паведамляе нядаўна знойдзены "Пінежскі летапіс", апублікаваны ў "Рукописном наследии Древней Руси" (Пецярбург, 1972), гэта быў Юрый Далгушын з ліцвінаў, "пан литовский полоненик": "Лета 7105 (1597 год па новым стылі. — **В. Я.**) першым праведаў "Надым раку, а на другі год Таз раку". Але як трапіў наш суайчыннік да памораў?

Першы рускі цар "усяе Русі" Іван Грозны (1530—1584) у 1558 годзе развязаў так званую Лівонскую вайну за выхад да Балтыйскага мора. Ваяваць рускаму гасудару давялося супраць Лівонскага ордэна (адсюль і назва гэтай вайны), Швецыі, Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага; у 1569 годзе Польшча і ВКЛ у ходзе вайны аб'ядналіся ў адну дзяржаву — Рэч Паспалітую. Вайна зацягнулася да 1583 года, а з 1579 года рускім войскам давялося весці нават абарончыя бai супраць польскага караля і палкаводца Стэфана Баторыя (1533—1586). Пад Смаленскам многія воіны Стэфана Баторыя апынуліся ў палоне ў рускіх.

У распараджэнні купцоў Строганавых меліся палонныя ліцвіны з Рэчы Паспалітай, якія прысягнулі на вернасць рускаму прастолу і былі залічаны на воінскую службу па "літоўскаму спісу" (з Літоўскай Русі — Беларусі). Яны прымалі ўдзел у першых ваенных і гандлёва-прамысловых паходах па суровых і неабсяжных прасторах Сібіры, а некаторыя дасягнулі высокага становішча. Сярод іх аказаўся і Юрый Далгушын.

У той далёкі 1597 год Далгушын узначаліў атрад памораў, які паспяхова прайшоў скрозь ільды да вусця Обі. У той год Далгушын упершыню абследаваў нізоўі ракі Надым і, перазімаваўшы, у наступным 1598 годзе "добра праведаў" раку Таз і Гыданскую тундру. Часта ля вады з'яўляліся абарыгены-паляўнічыя. Яны хаваліся за дрэвамі і прыбярэжнымі камянямі, зрэдку над галовамі памораў свісталі стрэлы. Вольныя ад грэблі людзі хапаліся за пішчалі, але паляўнічыя паспешна хаваліся. Высветлілася, аднак, што з абарыгенамі — энцамі вельмі выгадна для дзяржаўнай казны" гандляваць" пушніну.

Сярод велічнай зеленавата-залацістай, але плоскай і забалочанай тундры Далгушын аблюбаваў месца на высокім беразе ракі Таз, за 180 кіламетраў уверх па цячэнню, і заснаваў тут зімоўе "Мангазею". Для збору ясаку і гандлю з тубыльцамі гэта месца ўяўлялася яму вельмі зручным. Першы гандлёва-промыславы цэнтр у Сібіры заняў цэнтральнае становішча ў Гыданскай тундры ў адносінах басейнаў Надыма, Пуры, Таза і нізоўя Енісея.

Адкрыццё ў сярэдзіне XVI стагоддзя гандлёвых зносін паміж Масквой і Заходняй Еўропай праз Архангельск і Мезень павысіла попыт на пушніну, што ішла за мяжу. І праз тры гады пасля заснавання Мангазейскага зімоўя, у 1601 годзе, сюды прыйшоў больш шматлікі атрад на чале з князем Шахоўскім для ўладкавання Мангазейскага астрога як важнага апорнага пункта для далейшага асваення Сібіры. І вось ужо на берагах Таз-ракі застукалі сякеры, выраслі зрубы і частаколы. Прамыславікі білі каштоўнага пушнога звера, казакі "спраўлялі" гасудараву службу, збіралі ясак (чынш) з туземных плямёнаў, прыводзілі іх у рускае падданства. Астрог-горад хутка рос. Неўзабаве ўжо шумела ў Гыданскай тундры славутая Мангазея — першы гандлёвы цэнтр Сібіры. "Златокипящая государева вотчина" Мангазея, закінутая ў глыб сцюдзёнай тундры і згубленая сярод палярных балот, стала даваць казне нябачаную колькасць дарагой пушніны — штогод да 100 тысяч вывазных собаляў. І ў 1619 годзе Міхаіл Фёдаравіч, першы пасля "смутного времени" рускі цар з роду Раманавых, забараніў "шлях Далгушына" з Памор'я ў Мангазею для няпрошаных купцоў-падарожнікаў", каб умацаваць сваю манаполію на сібірскую пушніну.

У XVII стагоддзі маленькі гарадок Мангазея карыстаўся казачнай славай, якая грымела па ўсёй Расіі і была вядомая ў Еўропе. Вось таму і дзякуем яе стваральніку — ліцвіну Далгушыну. А чаму ён назваў гэты астрог Мангазеяй — гэта таксама не выпадкова і сведчыць аб вялікім розуме нашага прашчура. Пытанне аб назве сібірскага горада Мангазеі пралівае святло на гісторыю плямёнаў, што насялялі ў час экспедыцыі Далгушына міжрэчча Енісея і Таза — Гыданскую тундру.

У "Описании Сибирского царства" рускага гісторыка Г. Мілера (Санкт-Пецярбург, 1787) сказана: "На ўсходняй краіне, за Югорскай зямлёю над морам, жывуць людзі самаедзь, што завуцца малганзеі". Тут даволі дакладна ўказваецца менавіта тая мясцовасць, якую на рубяжы XVI і XVII стагоддзяў упершыню абследаваў Далгушын, — мясцовасць, што ляжыць на ўсход ад Обі і звязана з морам (Обска-Тазаўская губа і паўднёвая частка Карскага мора), што абмывае з поўначы Гыданскі паўвостраў з яго тундрамі. "Малганзеі" на зыранскай мове азначае "краявыя", г. зн. тыя, хто жыве на краі зямлі, на краі свету, на ўскраіне іншых самаедскіх плямёнаў. І назва Мангазея паходзіць, такім чынам, менавіта ад самаедскага роду, толькі род гэты называўся не "малганзеямі", а па рускаму вымаўленню — "мангазеямі". Далгушын, назваўшы сваё зімоўе Мангазеяй, прадэманстраваў дасведчанасць аб карэнным насельніцтве новых земляў Расійскай дзяржавы. Род мангазейскі адзначаецца пастаянна ў ясачных кнігах Мангазейскага павета і існаваў яшчэ ў XVII стагоддзі — у 1629 годзе гэты род складаўся з 50 ясачных ("зарэгістраваных") людзей.

Закінуты ў глыб "сцюдзёнай тундры" за самы палярны круг, схаваны ў балотах сярод "крывавай самаедзі", Мангазей-горад з прычыны свайго размяшчэння на раздарожжы паміж нізоўямі Обі і Енісея, у XVII стагоддзі адыграў выключную ролю ў руху рускіх прамыславікоў у Сібір і на Далёкі Усход, аж да заснавання Іркуцка і Якуцка. Ужо да сярэдзіны XVII стагоддзя собаль быў амаль знішчаны на захад ад Енісея, але праз Мангазею ішла дарога на ўсходне-енісейскія і ленскія сабаліныя промыслы. А пачыналася яна яшчэ раней, у Вялікім Усцюгу, адкуль ішоў на раку Вычагду і далей волакам у Іжму — левы прыток Пячоры. Па ўсходніх прытоках Пячоры рускія людзі падымаліся на Урал-камень і, пераадолеўшы перавал, спускаліся Сычвою ці Соб'ю ў Об. У вусці Обі перагружаліся з маленькіх лодак (на якіх прыйшлі з Памор'я) у марскія кочы і, перасякаючы бурную і шырокую (да 50 міль) Обскую губу, пранікалі ў Тазаўскую губу (Мангазейскае "мора") і ў саму Мангазею — горад. Будучы канцавой станцыяй Пячорскага шляху, Мангазея была і адпраўным пунктам, адкуль рускія людзі ішлі далей на ўсход. З вярхоўяў Таза цераз "расохі" волакам перабіраліся на прыток Енісея Туруханку, а там адкрываўся шлях уніз па Енісею на пясцовыя промыслы Таймыра ці ўверх па Енісею на Тунгуску і далей праз Вілюй на вялікую раку Лену. Мангазея была тым цэнтрам, адкуль рабіліся адкрыцці і далучэнне новых зямель і куды сцякаліся пушныя багацці з Енісея і далёкай Лены. І Мангазея цалкам адпавядала гэтым двум грандыёзным задачам, будучы адначасова і ўмацаваным ясачным зімоўем, і гандлёвай факторыяй. Яна складалася з дзвюх частак: "горада", акружанага магутнымі драўлянымі сценамі з вежамі па вуглах, і пасада з свірнамі гасцінага двара і хатамі служылых людзей. "Горад" прызначаўся для абароны факторыі ад "крывавожэрнай самаядзі", і ў ім пастаянна знаходзіўся гарнізон з паўсотнісотні стральцоў і казакаў. І толькі ў 1814 годзе, з канчатковым зацвярджэннем у сваім прымяненні Сібірскага паштовага тракта (будучай Транссібірскай чыгуначнай магістралі Екацярынбург — Уладзівасток) Мангазея як цэнтр Мангазейскага павета была ліквідавана і ў выніку спусташальных пажараў перанесена на новае месца з назвай Новая Мангазея (цяпер Туруханск, які ў XIX і ў пачатку XX стагоддзяў быў месцам ссылкі рэвалюцыянераў).

Пасад Мангазея ў XVII стагоддзі не меў пастаяннага насельніцтва, акрамя сямей служылых людзей. Ён жыў своеасаблівым жыццём і існаваў для прыезду з Русі маскоўскай гандлёва-промыславых людзей. Вясною тут было зацішша, а восенню, калі прыбывалі кочы з таварамі і хлебнымі запасамі, пасад ажываў у вясёлым чаканні навігацыі. Прыезджыя прамыславікі-паляўнічыя так-сяк размяшчаліся па хатах служылых людзей. Але як толькі надыходзілі першыя праблескі вясны, "хлебныя" запасы перакідваліся на нартах праз "расохі" на Туруханку, і як толькі праходзіў енісейскі лёд, з Падкаменнай і Ніжняй Тунгусак з'яўляліся кочы памораў, што вярталіся з промыслаў назад на Русь. Адбывалася іх "сустрэча" з паморамі, што адпраўляліся ў далёкую Сібір, узнікала "ярманга" (абмен тавараў на хлеб і соль, порах і гарэлку).

Кожную восень у Мангазеі збіраліся сотні гандлёвых і прамысловых людзей. З Архангельска праз Баранцава мора прыходзілі ў Мангазею караваны марскіх кочаў — вялікіх пласкадонных суднаў, што паднімалі да 700 пудоў грузу. Адначасова з Обі і Енісея, а потым і з Лены ў Мангазею прыплывалі са здабычай прамыславікі. У гэты час у далёкім паўночным гарадку збіралася да дзвюх-трох тысяч чалавек. Пачынаўся ажыўлены гандаль. Вяртаючыся ў Архангельск, гандлёвыя людзі прыносілі з Мангазеі ашаламляльныя весткі аб багаццях Сібіры, аб неабсяжных яе прасторах.

Пра тое, як тут кіпела жыццё ў часы Далгушына, можна меркаваць па дакументу: "Пры ранейшых мангазейскіх таможных галовах, — пісаў у 1654 годзе таможнік Іван Саблін, — прыходзілі з Сібіры ў Мангазею морам гандлёвыя кочы, у год кочаў па 50 і больш. А гандлёвых і прамысловых людзей зімавала ў Мангазеі чалавек па 1 000 і па дзве і больш". Пацвярджэннем вялікага напльву людзей могуць служыць звесткі аб памерах сабалінага промыслу ў Мангазейскім павеце. Летам 1630 года прывоз з промыслаў склаў 847 саракоў і 28 собаляў, г. зн. 33 908 сабаліных шкурак. А ў іншыя гады гэтая лічба даходзіла да ста тысяч.

Натоўпы прадпрымальных "прамыславікоў", якія з года ў год пераадольвалі ў пошуках здабычы жахі марскога шляху і самаедскіх тундраў, па свайму складу не былі аднароднымі, але па большай часткы гэта былі людзі з памораў, што жылі ў пячорскім краі. Сюды імкнуліся ў пагоні за лёгкай нажывай розныя "гуляшчыя людзі", якія з п'яных вачэй задарам прадавалі сваю цяжкую працу і сваю здабычу.

"Златокипящая государьская вотчина" — Мангазея была зямлёй запаветнай для паморскіх прамыслоўцаў. Адсюль тысячамі вывозіліся каштоўныя сабаліныя футры. Тут ствараліся неймаверныя багацці Рэвякіных ды Фядотавых з Вялікага Усцюга, Строганавых з Солі Вычагодскай. Праз іх рукі праходзіла львіная доля здабычы з неабсяжнай сібірскай тайгі.

Хутка асвойвалася Сібір. Усяго праз два дзесяцігоддзі казак Пенда выйшаў на раку Лену, яшчэ праз два дзесяцігоддзі атрад Масквіціна выйшаў на ўзбярэжжа Ахоцкага мора і яшчэ праз дзевяць год, у 1648 годзе, кочы Дзяжнёва і Аляксеева абагнулі Чукоцкі Нос. У гэты ж час атрады Паяркова, а за імі Хабарава даследавалі Амур. Азія была пройдзена і абследавана ў нябывала кароткі тэрмін. Подзвігамі соцень людзей адзначаны гэты шлях, і сярод слаўных землепраходцаў эпохі вялікіх геаграфічных адкрыццяў у Сібіры адважны Юрый Далгушын па праву павінен заняць ганаровае месца. Магіла яго невядомая, а пыл пройдзеных ім дарог даўно змяшаўся з мангазейскай зямлёй, адкрыццю якой ён аддаў сваё жыццё. Яго помніць Расія! Яго помніць Беларусь!

**Валерый ЯРМОЛЕНКА,**
**доктар геаграфічных навук.**

**НА ЗДЫМКУ: старажытны сібірскі горад Мангазея на рацэ Таз — зыходны пункт прасоўвання рускіх на ўсход.**

**ПАДАРОЖЖА ЮРЫЯ ДАЎГУШЫНА (1597 г.)**




## НАМ ПІШУЦЬ

Галіна КІРКЕВІЧ

### БЕЛАРУСЬ

Беларусь, мая Радзіма, —
Край дзяцінства, край лясны.
Жыццё песню спарадзіла
Ды чарнобыльскія дні.

Не забыць, яны трывожаць,
Думы горкія плывуць.
Цвет рамонка заварожыць,
Жуpавы ў неба нясуць.

Зазвініць песня на дзіва
І пальецца у цішы.
Беларусь, мая Радзіма. —
Боль Чарнобыля ў душы.

### РАДЗІМА

Думка пра край у мяне:
Снегу бясконцы прастор,
Птушак сляды на страсе
Казкі малююць узор.

Лапак ланцуг за хлявом
Вядзе у імглістую сінь.
А на рацэ за сялом
Люстэрка, як вокам ні кінь.

Ціха зусім на дварэ,
Снежны бялюткі ручнік.
Мара за душу бярэ,
Край прад вачыма узнік.

г. Феадосія.

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

* * *

Падчас схіліўшы галаву
Пад вецер памяці,
Жыву,
Ні перад кім спіну не гну —
Свой крыж нясу,
Свой воз цягну.
І гэтым самым мой паклон
Усім, каго люблю спакон.

1997.

*Вячку ЦЕЛЕШУ*

Відаць, што Божая рука
Рукой вадзіла мастака,
Што выплывае, як жывая,
Дзяцінства хуткая рака,

І сыплюць фарбаў галасы
Юнацтва родныя лясы,
І праз лугі і сенажаці
Айчыны сцежак паясы.

Не забываецца рука —
Радзімы вобразы стварае.
Вячысты талент мастака
Ў штрыху, у кожнай
фарбе грае.

І грае радасці віно
Ў душы,
Святлом Тваім сагрэтай,
О, Беларусь мая, —
ізноў
Я ўбачыць рад Твае
партрэты!

1998.

### ІКОНА

З дзяцінства да слёз мне
знаёма
У вочы глядзіць пільна мне
З радзімае хаты ікона
Ў кватэры маёй на сцяне.

Маліцца на гэту ікону
Да скону мне будзе цяплей.
Бацькі і браты мае колісь
Ў яе адбіваліся шкле.

А зараз са мной мае дзеці
Глядзяцца ў яе...
Нездарма —
Няма даражэйшай на свеце
І больш цудатворнай няма.

1998.

* * *

Ты мая Купалінка,
А я твой Купаліш.
Мы касцёр кахання
Год каторы палім.

Што жадаць нам болей!
Нашы сны збыліся:
Нашы лёс і доля,
Як вянкі, спляліся.

На жыццёвай плыні,
Як вянкі, сплыліся.
І купальскай песняй —
Сэрцы заліліся.

А дажджоў нямала
Нам дагэтуль — золкіх.
Быццам з неба ўпала
Кветка шчасця
зоркай!

Мы адзін другога
У вачах купаем...
Ты мая Купалінка,
А я твой Купаліш.

1998.

г. Даўгаўпілс.

**ВЫЙШАЎ СЁМЫ ТОМ «БЕЛАРУСКАГА КНІГАЗБОРУ»**

**ДЗЯКУЮЧЫ ДОБРЫМ ЛЮДЗЯМ**

# ПАЭТ І КАЗАЧНІК З АЗЁРНАГА КРАЮ

Сёмым томам папоўнілася распрацаваная Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі "залатая бібліятэка", якую выдае "Беларускі кнігазбор". Для жмені энтузіястаў, што прадстаўляюць памянёную арганізацыю, гэты год, можна сказаць, "ураджайны", бо сёлета ўжо выйшлі тры кнігі, а ў папярэднія гады выходзіла па дзве.

Адметнае ў кароткай гісторыі "залатой бібліятэкі" тое, што сёмы том з'явіўся без падтрымкі дзяржавы. Знайшліся, дзякуй Богу, калектывы і іх кіраўнікі, якія зразумелі выключна важную ролю пасільнай падтрымкі унікальнай кніжнай справы агульнанацыянальнага маштабу. Управа МФ "Беларускі кнігазбор" выказвае сардэчную падзяку генеральнаму дырэктару прадпрыемства "Рытм" М. Віткоўскаму і яго калектыву, генеральнаму дырэктару вытворча-гандлёвай фірмы "Прырода" Л. Гулевічу і яго калектыву, калектыву прадстаўніцтва шырока вядомай фірмы "Матарола", былому кіраўніку прадстаўніцтва Віталю Ленчыку і нязменнаму камерцыйнаму дырэктару М. Шлык за высакародныя з іх боку ўчынкі — своечасовую, хаця і небагатую, падтрымку. Шчыры дзякуй і генеральнаму дырэктару Мінскага завода шампанскіх він Т. Будыку, савету працоўнага калектыву, якія не адмахнуліся ад заклапочанасці кнігавыдаўцоў: тры мільёны "зайцоў" — таксама грошы, якія пад нагамі не валяюцца.

Падзяка адрасуецца таксама Патэнтнаму бюро Алены Бляевай за рэгістрацыю таварнага знака і назвы "Беларускі кнігазбор" і адказным асобам ЗАТ "Аскадпэйпер" за добрую якасць пастаўленай паперы, на якой надрукавана кніга.

Кіраўнікі МФ "Беларускі кнігазбор" зычаць усім фундатарам здароўя, спрыяльных умоў для развіцця іх дзейнасці і працвітання.

У такім рэчышчы можна было б развагі доўжыць. Але час прадставіць новае выданне "Беларускага кнігазбору".

Кніга выбраных твораў Яна Баршчэўскага дае нашаму чытачу магчымасць пазнаёміцца з усімі жанрамі творчасці — паэзіяй, прозаю (надрукаваны ўсе буйныя празаічныя творы), драматургіяй, — а таксама з ацалелымі лістамі выдатнага беларускага творцы першай паловы XIX стагоддзя. Ян Баршчэўскі быў сучаснікам Адама Міцкевіча, Аляксандра Пушкіна, Тараса Шаўчэнкі. Дарэчы, з Міцкевічам і Шаўчэнкам сустракаўся ў Пецярбургу. З вялікім сваім суайчыннікам ён сустракаўся ў дваццатыя гады XIX стагоддзя. Як засведчыў сучаснік Баршчэўскага Юльян Барташэвіч, Ян паказваў свяцілу нашай паэзіі Адаму Міцкевічу сшытак сваёй паэзіі. І любіў потым паўтараць перад маладзейшымі, што аўтар "Гражыны" чытаў яго вершы, пахваліў іх і сваёю рукою паправіў некаторыя. "Праўкі, аднак, не закраналі саму паэзію, — успамінаў Ю. Барташэвіч, — недасканаласць формы, а не духу папраўляў знакаміты мастак".

Навуковец Мікола Хаустовіч, укладальнік гэтага тома, аўтар прадмовы, каментараў, перакладчык прозы і лістоў Баршчэўскага, называе яго, ураджэнца Расоншчыны, "паэтам і казачнікам з азёрнага краю".

Як паэт Ян Баршчэўскі праявіў сябе, калі яшчэ вучыўся ў Полацкай езуіцкай калегіі, якая ў 1812 годзе пераўтварылася ў акадэмію. Першы верш "Дзеванька" стварыў на беларускай мове ў 1809 годзе, апублікаваць які ўдалося толькі ў 1843 годзе. У юнага паэта былі яшчэ беларускамоўныя творы, адзін з іх — "Бунт сялянаў" ("Рабункі мужыкоў"). Але, на жаль, наша Бацькаўшчына не мела тады беларускага друку — не існавала ніводнага беларускамоўнага выдання, — і Ян Баршчэўскі мусіў перайсці на польскую мову, якая панавала на Беларусі, з'ўлялася літаратурнаю. "Але і на гэтай мове, — піша Мікола Хаустовіч у сваёй прадмове, — ён праявіў сябе як шчыры патрыёт Бацькаўшчыны". Навукоўца слушна сцвярджае, што Ян Баршчэўскі, як ніхто раней, "здолеў выдатна паказаць у сваёй творчасці беларуса, раскрыць яго характар, расказаць пра родны край".

Цікава, што адзін з першых вершаў на беларускай мове "Бунт сялянаў" ("Рабункі мужыкоў") створаны Янам Баршчэўскім з нагоды канкрэтнага выпадку ў маёнтку пана Маліноўскага ў Шнітаўках, за 50 вёрстаў ад Полацка, у 1812 годзе. Вельмі многія сучаснікі лічылі гэты твор народнаю паэмаю. У ім на чыста народнай тагачаснай гаворцы распавядаецца пра тое, што асабліва хвалявала сялянаў, аўтар выказвае патрыятычныя вольналюбівыя думкі: "Стала і нам карціць, як бы Польшчу звараціць".

Польскамоўная паэзія Яна Баршчэўскага сярод выбраных твораў пададзена ў адмысловых і віртуозных перакладах народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна (на рахунак паэзіі можна аднесці і пераклад цудоўнай драматычнай паэмы "Жыццё сіраты", хоць яна змешчана ў асобным раздзеле "Драматургія"), а таксама ў перакладах прафесійных паэтаў — Уладзіміра Дубоўкі, Кастуся Цвіркі, Уладзіміра Мархеля. Тут і вершы, і санеты, і балады. Дарэчы, як піша ў сваёй прадмове Мікола Хаустовіч, балады "Дзве бярозы", "Русалка-спакусніца", "Дзявочая крыніца", "Зарослае возера", створаныя паводле беларускіх народных легендаў і паданняў, "з іх падкрэслена рэгіянальным, полацкім каларытам выклікалі захопленыя водгукі ў тагачаснай перыёдыцы".

На вялікі жаль, не ўсё, што народжана адметным талентам Яна Баршчэўскага, ацалела ў віхурах часу, не ўсё дайшло да нас. Так, дагэтуль не знойдзена вялікая вершаваная аповесць пра напад татараў, толькі пачатак уступу да якой паэт надрукаваў у трэцім томіку альманаха "Niezabudka". А пра ўцалелую спадчыну паэта можна сказаць радкамі з "Жыцця сіраты":

**Песню час не здасць**
**на тленне,**
**Песню бура не развее,**
**З пакалення ў пакаленне**
**Песня — душ людскіх**
**надзея.**

Цэнтральнае месца ў кнізе выбраных твораў Яна Баршчэўскага займае проза — больш за палову агульнага памеру выдання. Баршчэўскі-празаік надзвычай арыгінальны і дасканалы. Нездарма яго высока цанілі вядомыя сучаснікі. Як заўважыў тагачасны крытык і публіцыст Рамуальд Падбярэскі ў артыкуле "Беларусь і Ян Баршчэўскі", "тое, што піша пан Баршчэўскі прозай,.. мае суадносіны... з духам і паэзіяй народа, адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова. Ухапіўся ён за самую жыццёвую аснову і вырашыў паказаць у мастацтве вялікі народны вобраз. Ён мае перад сабою народ, часта з усёй прывабнасцю ягоных яшчэ паганскіх фантазій..." Ён жа, Р. Падбярэскі, у ролі выдаўца пісаў пра Яна Баршчэўскага: "Для мяне ён піша "Нарысы Беларусі", бо не ведаю, ці ёсць другі чалавек, які б так усебакова ведаў Беларусь".

У сёмым томе "залатой бібліятэкі", пра які ідзе гаворка, змешчаны тры празаічныя рэчы: "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", "Драўляны дзядок і кабета Інсекта" і "Душа не ў сваім целе".

Галоўнай кнігаю Яна Баршчэўскага называюць "Шляхціца Завальню, або Беларусь у фантастычных апавяданнях". Яе перакладчык і складальнік тома М. Хаустовіч глыбока аналізуе твор у сваёй прадмове: "...пісьменнік закранае ўсё кола пытанняў, звязаных з беларускаю нацыянальнаю думкаю. Ім робіцца спроба геаграфічнага апісання краю, яго гісторыі і нават эканамічнага стану. Яшчэ з большаю паўнатою Ян Баршчэўскі падае своеасаблівасці нацыянальнага характару беларуса, ягоны светапогляд, раскрывае ўнутраную прыгажосць ягонае душы. Пры дапамозе сістэмы вобразаў-сімвалаў выказваецца асноўная думка кнігі: Беларусь — гэта край, які мае сваю гісторыю; гэта край, мінулае якога было куды шчаслівейшае, чым сённяшні дзень; гэта край, насельніцтва якога — асобны народ, які можа і павінен жыць без дыктату з боку суседзяў, жыць паводле законаў ды традыцый сваіх продкаў... Беларусам трэба адно толькі ўспомніць сваё слаўнае мінулае, тых, хто загінуў за волю ды незалежнасць Бацькаўшчыны..." Так, сапраўды, у беларусаў павінен быць гонар за продкаў сваіх, "каб ісці сваім, а не падказаным суседзямі шляхам".

Мне імпануе развага М. Хаустовіча пра тое, што найбольш яскрава ідэю кнігі Яна Баршчэўскага выяўляе сімвалічны вобраз Плачкі. Плачку адны не могуць, другія не хочуць зразумець. Тым, хто адвярнуўся ад Плачкі-Беларусі, "непатрэбна Яе Жывая вада, што, пэўна, не аднаму б абудзіла ягоную нацыянальную самасвядомасць". "Паны і шляхта нічога не хочуць ведаць пра Плачку, пагардліва глядзяць на сялянскую сірату, — піша М. Хаустовіч. — Наадварот, яны звязваюцца з Чарнакніжнікамі, аддаюць свой край пад уладу Белае Сарокі, гаспадыні Паўночнае краіны (выдатны алегарычны вобраз Кацярыны ІІ!), а самі ў вобліку мядзведзяў вартуюць яе багацці; яны наводзяць на Беларусь асташоў, якія нішчаць нашу прыроду ды псуюць норавы люду".

М. Хаустовіч выступае як умелы літаратурны разведчык, і калі аналізуе "Жыццё сіраты". Ён заўважыў, што паэт не абмежаваўся адлюстраваннем... сумнае гісторыі сіраты-дзяўчыны, якую апякун давёў да вар'яцтва ды завалодаў яе маёнткам, і што гэтая жыццёвая гісторыя пад пяром Яна Баршчэўскага перарастае ў алегарычны малюнак нашага краю, нашае Беларусі. Сірата — гэта "тая ж Плачка-Беларусь, якая смуткуе па сваіх неразумных дзецях, што забыліся пра Яе, адракліся ад Яе, аддалі на здзек чужым людзям". І яшчэ прынцыпова важны момант адзначае ўважлівы і праніклівы навукоўца: "У той час, калі расійскі цар Мікалай І сваім загадам забараніў ужываць у афіцыйных дакументах тэрмін "Беларусь" (1840), г. зн. "аб'явіў" пра пачатак працэсу поўнае русіфікацыі беларусаў, Ян Баршчэўскі змяшчае гэты тэрмін на тытульным аркушы свае кнігі..." Яна — як мара, пакуль толькі ў "фантастычных апавяданнях", але ўжо ёсць. Дзякуючы Яну Баршчэўскаму, вобраз Беларусі, беларуская ідэя становяцца свяшчэннымі.

Пры ўсім пры гэтым кніга чытаецца з вялікай цікавасцю, як толькі можа чытацца высокамастацкая літаратура.

**Застаецца нагадаць чытачам: па ўсіх пытаннях набыцця кніг "залатой бібліятэкі" Беларусі, а таксама з прапановамі наконт іх выдання і заўвагамі ўправа "Беларускага кнігазбору" просіць звяртацца на адрас: 220005, г. Мінск, а/с 185, тэл/факс (017) 220-70-27.**

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

**ДЗІЎНЫЯ ВОБРАЗЫ ВАЛЯНЦІНА ГУБАРАВА**



Жыццё часам стамляе кожнага з нас. І вока пачынае шукаць твар, на які прыемна глянуць, прыгожае дрэва сярод каменных будынкаў. Мяне ж пазбавіла ад суму і стомленасці тое, што я выпадкова зайшла на выставу мінскага мастака Валянціна Губарава. Дзіўныя вобразы. Глядзіш на доўгія насы ягоных герояў, на іх нязграбныя постаці, на іх наіўныя вочы і разумееш, што недарэчныя сітуацыі, у якія яны трапляюць, не выпадковасць. Героі Губарава — сама недарэчнасць. Жанчына становіцца на святочны стол, вакол якога падпіўшыя госці (хто глядзіць на яе, хто есць, хто размаўляе), не падумайце, — не танчыць на ім. Каму такое цікава? Яна хоча ўкруціць лямпачку (карціна "Лямпачка ў 240 ват"). Хай сабе за сталом ёсць мужчыны, якія маглі б стаць на крэсла і зрабіць тое ж самае... Але ж жанчына ў нас, як вядома, таксама маху не дасць.

Мужчына (карціна "Віват, свабода") выпускае птушку (завадную цацку) на волю (ставіць на стол). Ці двое на арэлях ("Арэлі") гушкаюцца над усім горадам. Прытым, кожны элемент апошняга: і дзіцячыя каруселі, і царква, і тыя, хто купаецца ў возеры, дзе плаваюць гусі і жанчына палошча бялізну,— выпісаны каларытна і старанна.

Нешта ёсць у карцінах Валянціна Губарава ад лубка, ад наіўнага мастацтва. Часам здаюцца ягоныя сюжэты абсурднымі. Але ж у той жа момант і такімі рэальнымі. Ягоныя персанажы зусім не пафасныя. Яны вельмі простыя. І мастак любіць іх, дарэчы, як і ўсіх простых людзей. Нават кажа, што ў сваім пад'ездзе ён сябруе мабыць з самым простым чалавекам, з якім з задавальненнем можа гуляць вечарам у шахматы. Мастак лічыць, што простых, крыху наіўных людзей абараняе анёл.

Гумар яднае ўсе карціны Валянціна Губарава. Гледачы часта ўсміхаюцца, нават смяюцца, калі глядзяць на ягоныя працы. Бывае, мастака абвінавачваюць у тым, што ён злы і нават здзекуецца са сваіх герояў. Валянцін Губараў адназначна кажа: "Гэта няпраўда. Я вельмі спачуваю сваім героям. Я думаю, што мае карціны маюць наогул станоўчы эфект. Кожны чалавек з любым комплексам (а без іх людзей мала) глядзіць на маіх герояў і думае: а я лепшы! І твар у мяне нармальны, і праблем такіх няма".

# МАСТАК «ЧАСУ ДА...»

Карціны Губарава — гэта смех скрозь слёзы. Яго герояў калісьці параўноўвалі з героямі Вайновіча, Чонкіным, у прыватнасці. Мастак не супраць гэтага. Чонкін — гэта Іван-дурань цяперашняга часу. Але падкрэслівае: "Вайновіч — карыкатурыст і сатырык. Я ж больш лагодна стаўлюся да сваіх герояў. Іван-дурань у рэшце рэшт аказваецца разумнейшым за ўсіх. Розум ягоны не ад кніг, а ад зямлі. Я шкадую сваіх герояў. Ім не шанцуе ў жыцці. Але яны не злыя". Сапраўды, шанцуе не вельмі. Вось перамагла дзяўчына на конкурсе прыгажосці і вяртаецца "Дахаты з перамогай" на кані ў драбінах, з подыума — у агарод.

Першая персанальная выстава Валянціна Губарава называлася "Час ДА...". Час ДА, кажа мастак, "гэта час, у якім мы ўсе жывем, бо заўсёды жывем, чакаючы нечага. Калі праходзіць вясна, ёсць надзея, што яна вернецца. Але ў жыцці ёсць шмат такога, ад чаго назаўсёды застаюцца толькі ўспаміны. Нават, калі яны сумныя, яны дарагія для цябе, бо ўсё, што было з чалавекам, дарагое яму. Пра будучыню проста марыш. Мары — гэта іншае. Яны не напоўнены такім пачуццём, як тое, што ўжо перажыта".

У карцін Валянціна Губарава дзіўны лёс. Ён кажа, што іх бессэнсоўна дарыць знаёмым ці сваякам: "Людзі пачалі цяпер здымаць дываны са сцен, але ў лепшым выпадку маю карціну абяцаюць павесіць на дачы ў пярэднім пакоі". На Захадзе ж ягоныя карціны купляюць даволі актыўна. Там аматары мастацтва рады купіць у галерэі нешта эксклюзіўнае, арыгінальнае. Бо каштоўнасць мастака менавіта ў яго індывідуальнасці. А Валянцін Губараў — адзін з самых непадобных на іншых адметных мастакоў Мінска.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: Валянцін ГУБАРАЎ. "Арэлі" і "Аповесць аб нядоўгім жыцці рачной лілеі".**





НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# АД «АЗА» ДА КНІГІ

Расказ пра паштовыя маркі, прысвечаныя славянскай культуры, пісьменнасці, кнігадрукаванню, варта, відаць, пачаць з... азбукі, кірыліцы, што дала пачатак пісьменнасці многіх народаў.

У 1963 годзе ў Балгарыі праходзіў I Міжнародны кангрэс славістаў. Падзея гэта была адзначана балгарскай поштай выпускам маркі, на якой былі адлюстраваны скрутак пергаменту са старажытнаславянскім надпісам: "Раней славяне не мелі кніг". Такімі словамі пачынаецца славутае "Сказание о письменах", складзенае ў канцы IX стагоддзя балгарскім летапісцам Чарнарызцам Храбрым. У "Сказании" ідзе размова пра час, калі славяне не мелі кніг і пісалі "чертами и резами". Так працягвалася да таго часу, пакуль Канстанцін Філасоф — які зваўся таксама Кірылам, "муж праведный и истинный" — не прыдумаў славянскую азбуку. Дата нараджэння Кірылы дакладна не ўстаноўлена, прыкладна 826 ці 827 год. Яго старэйшы брат Мяфодзій нарадзіўся ў 820 годзе. Браты раслі ў старажытным горадзе Візантыйскай імперыі — Солуні.

Першыя маркі ў гонар Кірылы і Мяфодзія выйшлі ў 1935 годзе ў Балгарыі, праз 20 год пошта гэтай краіны, адзначаючы 1100-годдзе славянскай азбукі, выпусціла мініяцюры, на якіх браты адлюстраваны на фоне кавалка пергаменту з першымі васьмю літарамі азбукі кірыліцы. Кірылаўскім алфавітам у крыху змененым выглядзе па сённяшні дзень карыстаюцца беларусы, балгары, сербы, рускія, украінцы і іншыя народы.

З'яўленне першых кніг на беларускай мове звязана з імем вялікага гуманіста і асветніка Францішка Скарыны. У 1517—1519 гадах ён выдаў першыя беларускія кнігі, арганізаваў першую друкарню.

500-годдзе з дня нараджэння вядомага дзеяча беларускай культуры па рашэнню ЮНЕСКА шырока адзначалася ў многіх краінах (1988 год). Тады пошта краіны выпусціла да юбілею паштовую мініяцюру з адлюстраваннем першадрукара — ён паказаны на марцы з пяром у руцэ, побач лісты рукапісаў, друкарская дошка. На марцы можна знайсці так званы герб Скарыны — Месяц і Сонца. Гэты знак прысутнічае на ўсіх пражскіх і віленскіх выданнях першадрукара. Да юбілею тады быў выдадзены таксама канверт з адлюстраваннем старажытных кніг. Юбілей адзначаўся на Мінскім паштамце спецыяльным гашэннем з надпісам: "500 год. Францыск Скарына. 17.03.1988. Першы дзень".

У 1990 годзе, напярэдадні святкавання 500-годдзя першадрукара, быў выдадзены мастацкі канверт з вядомым малюнкам — на ім партрэт беларускага асветніка. Работа мастака А. Кашкурэвіча. Да юбілею была таксама выдадзена паштовая картка з адлюстраваннем часткі вядомай гравюры 1517 года, на ёй паказаны Ф. Скарына, які сядзіць перад рукапісам. Юбілей быў адзначаны гашэннем на мінскай пошце. На





малюнку штэмпеля — герб Скарыны Месяц і Сонца.

Яшчэ ў 1967 годзе да 450-годдзя беларускага кнігадрукавання быў выдадзены канверт з адлюстраваннем вядомай старажытнай гравюры.

У калекцыях філатэлістаў ёсць яшчэ адна марка, на якой паказана гравюра 1517 года. Гісторыя гэтай мініяцюры так і не высветлена да канца. Праведзена многа пошукаў, існуе шмат здагадак наконт гісторыі гэтай маркі, але на сённяшні дзень гэта ўсё ж — філатэлістычная таямніца. На марцы — надпіс: "Беларусь. Почта" (менавіта "почта", а не "пошта") і дробнай лацінкай: "Францыск Скарына з Полацка. 1517—1917". Калі звярнуць увагу на дату, дык можна падумаць, што выпуск гэты быў ажыццёўлены да 400-годдзя беларускага кнігадрукавання. Але гэта памылка, бо марка выдадзена ў 1921 годзе.

Сярод паштовых выпускаў былога СССР можна знайсці некалькі марак, канвертаў і спецыяльных штэмпеляў, прысвечаных І. Фёдараву — першадрукару Расіі, выхадцу з Беларусі. У сакавіку 1564 года І. Фёдараў разам з беларусам П. Мсціслаўцам скончылі друкаванне "Апостала" — першай дакладна датаванай маскоўскай кнігі.

У сакавіку 1991 года быў выдадзены канверт, прысвечаны беларускаму гуманісту, рэфарматару, пісьменніку і кнігадрукару XVI стагоддзя Васілю Цяпінскаму (В. Н. Амельяновічу). У сваім родным маёнтку Туміна, што пад Лепелем на Віцебшчыне, ён заснаваў друкарню. Каля 1580 года ў ёй было надрукавана на беларускай мове "Евангеліе". На паштовым канверце — партрэт В. Цяпінскага — прадаўжальніка гуманістычных ідэй Ф. Скарыны. Гэтым канвертам беларускія філатэлісты ў сваіх калекцыях адкрылі яшчэ адну старонку беларускай гісторыі, беларускай культуры.

Старажытнаму гораду Нясвіжу ў беларускай філатэліі прысвечана некалькі марак і канвертаў. На мініяцюры, выдадзенай поштай рэспублікі ў 1993 годзе, адлюстраваны помнік С. Будному — вядомаму беларускаму гуманісту, рэфарматару, асветніку, філасофу і летапісцу Вялікага Княства Літоўскага. У 1562 годзе ён заснаваў у Нясвіжы друкарню і выпусціў на беларускай мове "Катэхізіс". С. Будны ўнёс вялікі ўклад у развіццё беларускай мовы, прадоўжыў традыцыі Ф. Скарыны.

Упершыню ў 1995 годзе да свята беларускай пісьменнасці і друку была выпушчана марка з надпісам: "Свята адзначаецца штогод у першы тыдзень верасня". Надпісы на марцы зроблены старадаўнім шрыфтам, паказаны кніжныя знакі Скарыны. Герб — Месяц і Сонца, манаграма з літарай "Т". На марцы паказаны ўдзельнік дыспуту — фрагмент гравюры з скарынаўскай кнігі "Ісуса Сірахова" — "Біблії рускай".

У 1997 годзе адзначаўся юбілей беларускага кнігадрукавання. Пошта да гэтага юбілею — 480-годдзя — выпусціла серыю з чатырох марак, прысвечаную полацкаму, кракаўскаму, пражскаму і віленскаму перыядам жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара Ф. Скарыны. Да выхаду скарынінскай серыі марак быў таксама выдадзены канверт "першага дня" з адлюстраваннем друкарскага старажытнага станка, быў ужыты падчас свята юбілейны штэмпель. У яго малюнку герб Скарыны, раскрытая кніга і тэкст: "480 гадоў беларускага кнігадрукавання".

Трэба адзначыць, што ў калекцыях беларускіх філатэлістаў захоўваюцца маркі, канверты, штэмпелі, прысвечаныя Я. Купалу, Я. Коласу, М. Багдановічу, Я. Баршчэўскаму, З. Бядулі, Цётцы (Пашкевіч), М. Гарэцкаму і іншым пісьменнікам, фалькларыстам — усім, хто ўнёс уклад у беларускую культуру.

**Леў КОЛАСАЎ.**




**Новы тэатральны сезон Дзяржаўны тэатр юнага гледача пачынае, прыняўшы ў сваю трупу маладое папаўненне — выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў. Усе яны ўжо заняты ў новых пастаноўках тэатра.**

**НА ЗДЫМКУ: заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Леанід УЛАШЧАНКА (у цэнтры) віншуе моладзь з пачаткам творчай кар'еры. Справа налева: Сяргей ПАТАРАНСКІ, Юрый МІЛЬНІЧЭНКА, Юлія ПАЛУБІНСКАЯ і Андрэй КАЛАМІЕЦ.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

## КРЭВА: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ





**Вучоных-гісторыкаў, археолагаў і рэстаўратараў з Беларусі, Польшчы і Літвы сабрала Міжнародная навуковая канферэнцыя "Крэва: гісторыя і сучаснасць".**

**У мястэчку Крэва, што на Гродзеншчыне, вядомым сваім замкам з XIII стагоддзя, сабраліся тыя, хто занепакоены лёсам аднаго з помнікаў старажытнага дойлідства на Беларусі. Аб катастрафічным стане Крэўскага замка гаварыў адзін з арганізатараў канферэнцыі старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп і доктар гістарычных навук з Мінска, прафесар Анатоль Грыцкевіч. Сваімі даследаваннямі гісторыі замка дзяліліся архітэктары-рэстаўратары Тадэвуш Поляк з Варшавы і Ёнас Глямжа з Вільнюса. Археолагі Алег Трусаў і Ігар Чарняўскі пазнаёмілі ўдзельнікаў канферэнцыі з матэрыяльнай культурай і архітэктурнымі асаблівасцямі Крэўскага замка.**

**Вынікам канферэнцыі стала стварэнне міжнароднага фонду "Крэва", які мае сваёй задачай садзейнічанне захаванню і адраджэнню Крэўскага замка. Узначаліў фонд ураджэнец Крэва паэт Уладзімір Някляеў.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае прафесар Тадэвуш ПОЛЯК (Варшава); руіны Крэўскага замка.**

**Фота аўтара.**

# «З ДАЗВОЛУ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ»

Паехаў мужык, запрогшы пару коней, у лес па дровы. Паставіў воз і пайшоў вышукваць, што трэба. А гэтым часам па той жа лясной дарозе ехаў манах на фуры, напоўненай рознай данінай. І захацелася яму завалодаць адным з тых памаявікоў. Выпраг ён каня, прывязаў да свайго воза і загадаў фурману ехаць далей. Сам жа ўлез у хамут і стаў чакаць гаспадара.

Вяртаецца мужык і з жахлівым здзіўленнем глядзіць на такую перамену.

— Што ж гэта? — усклікнуў ён нарэшце.

— Гэта воля Божая, — маліцоўна зляжыўшы рукі, адказаў манах. — Я некалі вельмі саграшыў, за што быў пакараны — ператорваны ў каня. Доўга я з усёй маёй добрасумленнасцю працаваў на цябе, і вось Бог злітаваўся, вярнуўшы маё чалавечае аблічча.

Выслухаўшы тлумачэнне, селянін дапамог быламу грэшніку выбрацца з хамута, а вярнуўшыся ў сяло, з вялікім жарам расказваў пра гэты "цуд".

Аўдавеў адзін мужык, а на руках у яго засталося аж шасцёра дзяцей. Дзе ж яму аднаму ўправіцца з імі, і стаў ён шукаць сабе жонку. Знайшлася такая, што згадзілася пайсці за яго, бо ў яе, самой удавы, таксама меласа шасцёра. А пакольі абодва былі не зусім старыя, то нарадзілася ў іх яшчэ шасцёра дзетак. Падрастаюць усе разам, усё, як трэба. Толькі аднойчы выбягае з хаты жонка і — да мужыка, што быў на дварэ: "Хутчэй дапамажы! Бо твае дзеці і мае дзеці б'юць нашых дзяцей!"

У нейкага пана быў кухар. Заказаў аднойчы гаспадар спячы гуся і адразу падаць да стала. Калі страва была ўжо гатова, кухар, дэгустуючы, заахвоціўся ды і з'еў гусакову ножку. А пан і пачаў свой абед менавіта з ножак, але адразу ўбачыў недахват, ад чаго страшэнна раз'юшыўся і вылаяў кухара. Той у апраўданне стаў даводзіць, што ў птушкі і была толькі адна нага, але довад гэты не ўпэўніў пана, толькі яшчэ больш раззлаваў.

Паехалі яны праз пару дзён па розных справах у мястэчка. Па дарозе кухар звярнуў увагу на чараду гусей, многія з якіх (бо справа была позняй восенню) стаялі на адной назе, падціснуўшы другую, каб пагрэць.

— Вось бачыце, пане, — ажывіўся кухар, — колькі гусей аднаногіх!

Памешчык, нічога не кажучы, узяў ды як свіснуў, ад чаго тыя гусі з перапуду паімчаліся з усіх ног. Толькі тады ён зларадна заўважыў:

— Ну, што ты цяпер, блазан, скажаш?

— А тое скажу, шаноўны пане, што трэба было вам і тады свіснуць, мо нага і паявілася б.

**З кнігі Л. КАЗЛОВА.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1821.
Падпісана да друку 19. 10. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.